


Алесь СУША

# ФРАНЦЫСК СКАРЫНА

У 3 частках
Частка 2

## Чалавек свету

Мінск
«Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»
2016

УДК 087.5:[94(476)+929Скарына](035)
ББК 63.3(4Беи)я2
С91

Серыя заснавана ў 2015 годзе

Матэрыялы выдання падрыхтаваны сумесна
з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі

Выпуск выдання ажыццёўлены
па заказу і пры фінансавай падтрымцы
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

**Суша, А.А.**

С91 Францыск Скарына. У 3 ч. Ч.2. Чалавек свету : для сярэд. і ст. шк. ўзросту / Алесь Суша. — Мінск : Беларус. Энцыкл. імя П. Броўкі, 2016. — 128 с. : іл. — (Беларуская дзіцячая энцыклапедыя).

ISBN 978-985-11-0916-2.

Кніга серыі «Беларуская дзіцячая энцыклапедыя» прысвечана беларускаму першадрукару Францыску Скарыне, які з'яўляецца самым яркім і найбольш вядомым творцам беларускай культуры. Жыццёвы і творчы шлях беларускага першадрукара і асветніка звязвае нашу зямлю з многімі краінамі свету. Сярод іх Вялікае Княства Літоўскае, Польскае, Дацкае і Чэшскае Каралеўствы, Венецыянская Рэспубліка, Папская Вобласць, Маскоўская Дзяржава, Саксонскае Курфюрства, Прускае Герцагства, Аўстрыйская Манархія. Фактычна, увесь тагачасны цывілізаваны свет быў добра вядомы Скарыне. А праз яго асобу многія дазнаваліся пра Беларусь.

Кніга прызначана для дзяцей сярэдняга і старшага школьнага ўзросту, а таксама ўсіх, хто цікавіцца багатай гісторыяй нашай краіны.

**УДК 087.5:[94(476)+929Скарына](035)**
**ББК 63.3(4Беи)я2**

**ISBN 978-985-11-0916-2 (ч.2)**
**ISBN 978-985-11-0902-5**

# УВОДЗІНЫ

Францыска Скарыну — найбольш вядомага дзеяча беларускай культуры — у поўнай меры можна назваць чалавекам свету. Яго дзейнасць не мела межаў: як у сэнсе разнастайнасці творчых заняткаў і талентаў беларускага асветніка, так і паводле геаграфіі яго падарожжаў і сувязей з рознымі краінамі і прадстаўнікамі розных народаў.

Фактычна ўвесь цывілізаваны свет таго часу быў добра вядомы Францыску Скарыне, а ў многіх дзяржавах цудоўна ведалі яго. Кіраўнікі некалькіх еўрапейскіх краін называлі яго выбітным дзеячам, слаўным вучоным, надзвычай адораным і таленавітым мужам. Яго здольнасці здзіўлялі многіх педагогаў, арыстакратаў і гараджан у розных куточках Еўропы.

Тагачасны цывілізаваны свет, фактычна, абмяжоўваўся Еўрапейскім кантынентам: яшчэ толькі-толькі адкрылі Амерыку, Аўстралія не была вядома зусім, Афрыка ўспрымалася «дзікім» краем, а Азія заставалася закрытай, мала зразумелай і не ўключанай у агульны працэс развіцця. Менавіта Еўропа ў часы Адраджэння была палітычным, эканамічным, ваенным і культурным цэнтрам свету. Тут адбываліся важнейшыя навуковыя адкрыцці, імкліва развівалася мастацтва, ствараліся магутныя арміі, назапашваўся сусветны капітал.

Такім чынам, праз асобу Францыска Скарыны Беларусь была ўключана ў агульнаеўрапейскую і сусветную культурную прастору. Пры гэтым уласна Беларусі ў тыя часы не існавала, як не існуе сёння ні адной краіны, дзе некалі жыў і працаваў наш асветнік. Хаця лёс беларускага першадрукара быў знітаваны з многімі дзяржавамі 16 стагоддзя, родным яму было Вялікае Княства Літоўскае. Гады яго вучобы звязаны з Польскім Каралеўствам і Венецыянскай Рэспублікай. У Чэшскім Каралеўстве ён ажыццяўляў сваю выдавецкую дзейнасць і праявіўся ў якасці таленавітага батаніка. Як вучоны і дыпламат ён быў вядомы ў Прускім Герцагстве. Асобныя крыніцы сведчаць пра магчымае знаходжанне і працу Францыска Скарыны ў Дацкім Каралеўстве, Папскай Вобласці, Вялікім Княстве Маскоўскім, Саксонскім Курфюрстве і Аўстрыйскай Манархіі.

Свет з таго часу змяніўся вельмі моцна. Тым не менш, засталіся і працягваюць развівацца сувязі паміж народамі, што жывуць на гэтых землях. Асоба ж Скарыны застаецца мостам, які злучае нашы народы і з'яўляецца сведчаннем даўнасці і эфектыўнасці стасункаў Беларусі з многімі краінамі свету. Грунтуючыся на дасягненнях мінулага, на агульнай спадчыне і агульнай памяці сёння мы можам развіваць партнёрскія стасункі з нашымі суседзямі і сябрамі за мяжою.


ШЛЯХАМІ
ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ
ДАНІЯ
Кёнігсбер
Капенгаген
АНГЛІЯ
Познан
СВЯШЧЭННАЯ
РЫМСКАЯ
ІМПЕРЫЯ
Вітэнберг
Прага
КАРАЛЕЎСТВА
ЧЭХІЯ
Вена
АЎСТРЫЯ
Вінэр-Нойш
КАРАЛЕЎСТВА ФРАНЦЫЯ
Падуя
Венецыя
АРАГОН
ПАПСКАЯ ВОБЛАСЦЬ
КАРАЛЕЎСТВА
Рым


Гарады, дзе дакладна быў Ф. Скарына


Гарады, дзе верагодна быў Ф. Скарына


Курфюрства Саксонія


Прускае герцагства


Венецыянская Рэспубліка





Францыск Скарына нарадзіўся ў адной з самых вялікіх дзяржаў Еўропы, якая называлася Вялікім Княствам Літоўскім, Рускім, Жамойцкім і іншых зямель, ці, скарочана, Вялікім Княствам Літоўскім (ВКЛ).

Гэта дзяржава ўзнікла ў сярэдзіне 13 стагоддзя на памежжы сучасных Беларусі і Літвы. Як лічыцца, у 1253 годзе ў беларускім горадзе Наваградку (Навагрудку) ці каля яго адбылася каранацыя першага караля гістарычнай Літвы — Міндоўга. Дзякуючы мужнаму змаганню і палітычнаму розуму яго наступнікаў — вялікіх князёў Гедыміна і Альгерда — Вялікае Княства Літоўскае здолела захаваць сваю незалежнасць і ад навалы з Усходу (татарскіх ордаў, якія захапілі землі Расіі і Украіны), і ад агрэсіі з Захаду (у выглядзе крыжацкіх паходаў).

Больш таго, краіна ўвесь час працягвала пашырацца за кошт уключэння балцкіх зямель, вялікіх частак былой старажытнай Русі і іншых славянскіх зямель, якія ахоплівалі тэрыторыі сучасных Беларусі, Латвіі і Літвы, а таксама часткі сучасных Украіны, Польшчы, Эстоніі, Малдовы і Расіі.



*Замак у Навагрудку – першай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага (рэканструкцыя В. Сташчанюка)*



*Міндоўг, першы кароль Вялікага Княства Літоўскага. Гравюра з «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» А. Гваньіні (1578)*



***Генеалагічнае дрэва вялікіх князёў Вялікага Княства Літоўскага і польскіх каралёў (з выдання 1521 года)***

Пры гэтым менавіта беларускія землі ва ўсе часы заставаліся асновай Вялікага Княства Літоўскага, яго цэнтральнай і найважнейшай часткай.

Найбольшага пашырэння краіна дасягнула падчас праўлення Вітаўта Вялікага. Менавіта яго, як найбольш выбітнага кіраўніка краіны апісваюць многія беларускія летапісы, яго апяваў вядомы паэт Мікола Гусоўскі ў сваёй паэме «Песня пра зубра». Менавіта падчас яго кіравання Вялікім Княствам Літоўскім і падчас знаходжання на пасадзе караля Польшчы роднага дзядзькі Вітаўта — Ягайлы — адбылася знакамітая Грунвальдская бітва. Тады, 15 ліпеня 1410 года беларуска-літоўска-польскія войскі ўшчэнт разбілі магутную армію крыжакоў Тэўтонскага ордэна. Тым самым быў канчаткова спынены наступ на нашы землі крыжацкай навалы.

Кіраванне Вялікім Княствам Літоўскім ажыццяўляў вялікі князь, або гаспадар. Яго гаспадарскі суд быў вышэйшай інстанцыяй. Заканадаўчую ролю выконваў сойм — сход прадстаўнікоў вышэйшага саслоўя ад усіх

*Беларускія землі ў складзе Вялікага Княства Літоўскага ў пачатку 16 стагоддзя (аўтар карты В. Цемушаў)*







***Зала шляхецкіх застолляў часоў Вялікага Княства Літоўскага, рэканструяваная ў Мірскім замку***

рэгіёнаў краіны. Яшчэ адным высокім дзяржаўным органам была Рада, альбо Паны-Рада, якая складалася з найбуйнейшых магнатаў княства.

Саслоўная структура грамадства ўключала чатыры асноўныя групы: шляхту, духавенства, мяшчан і сялян. Найбольш прывілеяванай групай была шляхта, якая не плаціла падаткаў, але забяспечвала абарону краіны.

Аснову эканамічнага развіцця краіны нароўні з сельскай гаспадаркай складалі беларускія гарады. Тут адбываўся абмен і гандаль прадукцыяй сельскай гаспадаркі і рамеснымі вырабамі, развіваліся рамесная і мануфактурная вытворчасць, рачное суднаходства і суднабудаванне, адсюль адбывалася кіраванне валасцямі, паветамі, ваяводствамі і княствамі, тут знаходзіліся важнейшыя храмы і манастыры. Многія гарады мелі шырокія вольнасці на самакіраванне паводле магдэбургскага права. Таму цалкам заканамерным выглядае пастаянны рост гарадскога насельніцтва, які часам пе-



*Вучоныя ў Вялікім Княстве Літоўскім у 16 стагоддзі*

рапыняўся падчас ваенных канфліктаў. Сярод найбуйнейшых гарадоў Вялікага Княства Літоўскага ў часы Скарыны былі Полацк і Вільня — гарады, з якімі непасрэдна былі звязаны жыццё і дзейнасць першадрукара.

Ад самага пачатку ў Вялікім Княстве Літоўскім мірна пражывалі прадстаўнікі розных нацыянальнасцей і веравызнанняў. Пры гэтым за ўсю працяглую гісторыю гэтай краіны мы амаль не ведаем значных этнічных і рэлігійных канфліктаў, войнаў і паўстанняў. Нашы продкі, якія належалі да розных сацыяльных, этнічных і рэлігійных груп, заўжды маглі знайсці агульную мову між сабою.

Ва умовах, калі большасць грамадзян краіны належала да праваслаўя, а прывілеяваным лічылася каталіцтва, у грамадстве існавала імкненне да паразумення і нават паяднання гэтых дзвюх галін хрысціянства. У выніку мы ведаем пра вялікую колькасць спроб заключыць царкоўны саюз (унію) паміж цэрквамі, адной з якіх з'яўляецца Берасцейская (Брэсцкая) унія 1596 года. Да таго ж у Вялікім Княстве Літоўскім разам з хрысціянамі мірна пражывалі яўрэі (іудзеі), татары (мусульмане), цыгане і, безумоўна, сярод насельніцтва заставаліся моцнымі язычніцкія вераванні.



*Скураны абутак 16 стагоддзя, знойдзены пры раскопках у Вільні*

Ваенныя сутыкненні з Маскоўскай Дзяржавай у першай палове і сярэдзіне 16 стагоддзя ўсё больш штурхалі Вялікае Княства Літоўскае да саюзу з суседняй Польшчай. У выніку Люблінскай уніі 1569 года Вялікае Княства Літоўскае і Польскае Каралеўства ўтварылі супольную дзяржаву — Рэч Паспалітую. ВКЛ захавала ў новых умовах многія рысы самастойнай краіны: уласныя ўрад і сістэму кіраўнічых пасад, сімволіку (герб Пагоня), законы (найперш, Статуты Вялікага Княства Літоўскага), армію і скарб. Тым не менш, пасля Люблінскай уніі істотна ўзмацніўся польскі ўплыў на палітычнае, эканамічнае і культурнае жыццё Беларусі.

Сваё існаванне Вялікае Княства Літоўскае і ўся Рэч Паспалітая скончылі ў выніку змовы трох суседніх вялікіх імперый — Расіі, Прусіі і Аўстрыі. Паводле трох падзелаў Рэчы Паспалітай (у 1772, 1793 і 1795 гадах) большая частка Вялікага Княства Літоўскага (з беларускімі землямі) увайшла ў склад Расійскай Імперыі. Нават патрыятычнае паўстанне 1794 года пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі не здолела выратаваць краіну.

**15 — першая палова 16 стагоддзя, калі нарадзіўся і жыў Францыск Скарына, лічыцца часам найбольшага росквіту Вялікага Княства Літоўскага, якое стала адной з найбуйнейшых дзяржаў у Еўропе.**



*Сцены Мірскога замка — сучасніка Скарыны*

# ПОЛАЦК

Сучасны раённы цэнтр Віцебскай вобласці горад Полацк з'яўляецца самым старажытным горадам нашай краіны. Ён знаходзіцца на рацэ Заходняя Дзвіна пры ўпадзенні ў яе ракі Палата. Менавіта гэта рэчка і дала назву старажытнаму гораду, які ў даўніх крыніцах называўся Полоцк, Полоцъкъ, Полотескъ, Полтескъ, Полотскъ, а ў больш позніх беларускіх крыніцах — Полацак.

Упершыню Полацк згадваецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 862 годам. Горад хутка развіваўся і рос, што было звязана з яго выгадным размяшчэннем на рачным гандлёвым шляху з Паўночнай Еўропы праз Рыгу, Полацк і Кіеў на Чорнае мора і далей у Візантыю і арабскія краіны. Таму ўжо з самай старажытнасці менавіта гандлёвая дзейнасць займала важнейшае месца ў гаспадарчым жыцці Полаччыны. У выніку ўжо ў 9—10 стагоддзях вакол Полацка сфарміравалася самастойнае ўдзельнае княства крывічоў-



*Полацк у 12 – 13 стагоддзях (рэканструкцыя В. Сташчанюка)*



***Полацкі Сафійскі сабор. 11 стагоддзе. Рэканструкцыя***

палачан. Уладанні Полацка пашыраліся ад Мінска (Менска) на поўдні да гарадоў Герцыке і Кукенойс (сёння ў Латвіі) на поўначы.

Уся старажытная гісторыя Полацка і Полацкай зямлі звязана са змаганнем за сваю незалежнасць ад Кіева і Ноўгарада. Ужо першыя звесткі пра Полацк звязаны з паходамі ў 862—865 гадах кіеўскіх князёў Аскольда і Дзіра, якія палачанам «много зла сътвориша». У Полацку існавала ўласная княжацкая дынастыя Рагвалодавічаў, якая праводзіла незалежную знешнепалітычную дзейнасць і знаходзілася ў актыўных стасунках з многімі еўрапейскімі дзяржавамі.

У якасці сімвала сваёй самастойнасці і самабытнасці ў 11 стагоддзі палачане збудавалі ў горадзе вялікі Сафійскі сабор (на ўзор аднайменных храмаў у Канстанцінопалі, Кіеве і Ноўгарадзе). Ужо ў 12 стагоддзі ў Полацку дзейнічалі шматлікія храмы і манастыры. Найбольш вядомыя з іх — Сафійскі сабор, Полацкі княжацкі храм, Бельчыцкі Барысаглебскі манастыр і Спаскі манастыр. Апошні з названых быў заснаваны знакамітай асветніцай Еўфрасінняй Полацкай, якая мела таксама непасрэднае дачыненне да пашырэння хрысціянства на Полаччыне, развіцця адукацыі, стварэння новых кнігапісных майстэрняў (скрыпторыяў) і бібліятэк.



*Меч 10 стагоддзя, знойдзены ў Полацку*

У 1161 годзе на яе замову полацкі майстар Лазар Богша стварыў сапраўдны цуд — шасціканцовы крыж для Спаскага манастыра (крыж Еўфрасінні Полацкай).

Пагроза з боку крыжакоў вымусіла крывічоў-палачан і старажытных літоўцаў шукаць паразумення і супольнымі сіламі выступаць супраць агрэсіі. У выніку ўжо падчас фарміравання Вялікага Княства Літоўскага ў Полацку зацвердзіліся літоўскія князі, а ў канцы 13 — пачатку 14 стагоддзя Полацкае Княства ўвайшло ў склад Вялікага Княства Літоўскага.

Пры гэтым Полацк стаў самым вялікім горадам у ВКЛ. Ён меў асаблівыя правы («Полацкія прывілеі»). У канцы 15 стагоддзя горад атрымаў магдэбургскае права, а з 1504 года ён стаў цэнтрам Полацкага ваяводства. Менавіта ў гэтым велічным старажытным горадзе з багатымі культурнымі і палітычнымі традыцыямі нарадзіўся і правёў юнацкія гады Францыск Скарына.

На вялікі жаль, з 16 стагоддзя пачынаецца заняпад горада, які стаў месцам жорсткіх ваенных сутыкненняў



*План Полацка 16 стагоддзя*

паміж Маскоўскай Дзяржавай і Вялікім Княствам Літоўскім. У выніку горад страціў большасць свайго насельніцтва, эканамічны і культурны патэнцыял. Многія полацкія майстры і рамеснікі апынуліся ў Маскве, дзе працавалі над мастацкім убраннем царскіх рэзідэнцый, палацаў і манастыроў.

У складзе Рэчы Паспалітай Полацк працягваў выконваць функцыі цэнтра ваяводства і павета, буйных праваслаўнай і ўніяцкай епархій. Пасля ўваходжання часткі ўсходніх беларускіх зямель у склад Расійскай Імперыі ў 1772 годзе Полацк трапіў у склад Пскоўскай губерні, а ў 1776—1796 гадах быў цэнтрам Полацкага намесніцтва. У далейшым ужо як цэнтр павета ўваходзіў у склад Беларускай і Віцебскай губерняў Расійскай Імперыі. Спадзяванні на адраджэнне колішняй велічы горада былі звязаны з заснаваннем у 1812 годзе ў Полацку акадэміі з правамі ўніверсітэта — першай вышэйшай навучальнай установы на сучасных беларускіх землях. Аднак у 1820 годзе акадэмія была закрыта. З 1919 года Полацк ненадоўга ўваходзіў у склад БССР, але ў хуткім часе быў уключаны ў склад Расіі. Толькі з 1924 года ён канчаткова ўвайшоў у склад БССР. У 1944—1954 гадах ён быў цэнтрам Полацкай вобласці. Сёння — гэта горад раённага значэння з вельмі вялікім культурным патэнцыялам, цэнтр турызму, адукацыі, культуры, гістарычная і духоўная сталіца Беларусі.



*Магчымая выява Полацкай ратушы на іконе святога Мікалая з Полацка (18 стагоддзе)*

* * *

Вядома, што менавіта ў старажытным беларускім горадзе Полацку — месце з даўнімі культурнымі традыцыямі, развітой гаспадаркай і прававой сістэмай — каля 1590 года нарадзіўся Францыск Скарына.

Тут жа ён атрымаў першапачатковую адукацыю. Першыя веды былі ім набыты, верагодна, яшчэ ў доме бацькоў, а далейшая адукацыя разам з валоданнем лацінскай мовай маглі быць атрыманы ім у школе пры бернардзінскім манастыры ў Полацку.



*Язэп Драздовіч. Францыск Скарына. Развітанне з родным Полацкам. У свет па навуку*



*Мікола Купава. Франак Скарыніч у Полацку*

**Памяць пра родную зямлю і свой родны горад Францыск Скарына захоўваў на працягу ўсяго жыцця. З нязменным пастаянствам і нават з нейкай упартасцю адзначаў ён у кнігах сваё полацкае паходжанне «са слаўнага горада Полацка». Гэтаксама землякі Скарыны з гонарам лічаць яго сваім слаўным папярэднікам, героем і найбольш слаўным палачанінам: сёння ў Полацку іменем Скарыны названы вуліца, праспект, плошча, гімназія, каледж, тут яму быў усталяваны і першы скульптурны помнік.**

# ВІЛЬНЯ

Вільня — другая (пасля Наваградка) і апошняя сталіца Вялікага Княства Літоўскага, адміністрацыйны і палітычны цэнтр краіны.

Горад атрымаў сваю назву ад ракі Вільня, на месцы ўпадзення якой у Вілію ён і знаходзіцца. Пад такой назвай горад фігуруе ва ўсіх старажытных дакументах на беларускай, рускай, польскай, лацінскай і іншай мовах. Пачынаючы з канца 16 стагоддзя з'яўляюцца крыніцы на літоўскай мове, дзе горад мае назву Вільнюс.

Першыя пасяленні на тэрыторыі Вільні ўзніклі яшчэ ў палеаліце (10 тысяч гадоў да нашай эры) і неаліце (4—3 тысячы гадоў да нашай эры).



*Фрагмент панарамы Вільні паводле гравюры Тамаша Макоўскага (1600)*

У 6—7 стагоддзях тут з'явіліся славяне-крывічы, якія пачалі ўплываць на жыццё балцкага насельніцтва і нават яго паступова выцясняць. У пісьмовых крыніцах Вільня ўпершыню згадваецца толькі ў пачатку 14 стагоддзя.

Ёсць меркаванне, што спачатку горад размяшчаўся на так званай Крывой (Лысай) гары і таму называўся Крывым замкам. Вакол гарадзішча ў 13—15 стагоддзях расло гарадское паселішча.

У першай палове 14 стагоддзя падчас княжання Гедыміна Вільня стала сталіцай Вялікага Княства Літоўскага. Гэта было звязана з неабходнасцю вялікага князя знаходзіцца недалёка ад заходняй мяжы краіны, каб кіраваць яе абаронай ад крыжацкіх нападаў. У той жа час у горад запрашаліся рамеснікі і купцы з іншых краін, таму ўжо ў 1387 годзе горад атрымаў прывілей на магдэбургскага права.

Шматлікія напады крыжакоў на Вільню, найбольшыя з якіх былі ў 1321, 1365, 1375, 1377, 1391 і 1402 гадах, завяршыліся пасля знакамітай перамогі ў Грунвальдскай бітве ў 1410 годзе. Пасля гэтага развіццё Вільні ішло больш актыўна. У 1413 годзе горад стаў цэнтрам ваяводства, у 1416 тут з'явілася рэзідэнцыя праваслаўнага мітрапаліта, у 1492 — заснаваны Віленскі манетны двор і першая аптэка. У пачатку 16 стагоддзя пачалося будаўніцтва вялікай абарончай сцяны, якое скончылася ў 1522 годзе.

Найбольшага росквіту Вільня дасягнула ў 16 стагоддзі — менавіта



*Ліст вялікага князя Гедыміна 1323 года, у якім упершыню згадваецца Вільня*

ў той час, калі тут жыў і працаваў Францыск Скарына. Горад працягваў прырастаць новымі тэрыторыямі. Узводзіліся шматлікія храмы і манастыры, з'яўляліся мураваныя палацы (Радзівілаў, Сапегаў, Астрожскіх, Хадкевічаў і інш.). Ужо ў 1511 годзе ў Вільні было 7 касцёлаў і 14 цэркваў. Актыўна развіваліся шматлікія рамё-

ствы, ствараліся рамесныя цэхі. Ужо да сярэдзіны 16 стагоддзя тут працавалі гарматная ліцейня, паперня і шкляная гута. Сведчаннем узроўню эканамічнага развіцця з'яўляецца той факт, што да сярэдзіны 16 стагоддзя ў Вільні працавала каля 840 крам.

У той жа час горад вызначаўся стракатасцю этнічнага і канфесійнага складу, які значна ўплываў на культурнае жыццё і асвету ўсёй краіны. У сярэдзіне 17 стагоддзя ў Вільні дзейнічала 37 храмаў розных канфесій, вялікая колькасць манастыроў, працавалі праваслаўныя, каталіцкія, уніяцкія і пратэстанцкія школы і калегіі, яўрэйскія навучальныя ўстановы, расла і ўмацоўвалася езуіцкая акадэмія, налічвалася 10 друкарняў.

Непапраўныя страты былі нанесены гораду ў выніку шматлікіх пажараў, а асабліва вайны з Расіяй 1654—1667 гадоў і Паўночнай вайны 1700—1721 гадоў. Адраджэнне горада пасля гэтых падзей часта займала цэлыя дзесяцігоддзі, але нязменна адбывалася, і кожны раз горад паўставаў з руін.

Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе горад увайшоў у склад Расійскай Імперыі ў статусе цэнтра губерні і генерал-губернатарства. Пры гэтым ён заставаўся трэцім



*Вільня на гравюры сярэдзіны 16 стагоддзя*



*Палац вялікіх князёў літоўскіх у Вільні*

па велічыні (пасля Пецярбурга і Масквы) горадам імперыі. У ім працаваў самы вялікі і самы старажытны ў краіне ўніверсітэт, дзейнічалі патрыятычныя таварыствы філаматаў і філарэтаў. Развівалася прамысловасць, чаму паспрыяла праходжанне ў 1860—1862 гадах праз горад чыгункі з Пецярбурга на Варшаву, а пазней — Лібава-Роменскай чыгункі. У 1914 годзе ў Вільні дзейнічала 266 прадпрыемстваў. Перад Першай сусветнай вайной па горадзе ўжо ездзілі першыя аўтамабілі, працаваў грамадскі транспарт (конка, а з 1908 года — трамвай).

У пачатку 20 стагоддзя менавіта ў Вільні выходзілі беларускія газеты «Наша Доля» і «Наша Ніва», працавалі Беларускі музычна-драматычны гурток, Беларускі клуб, Віленская беларуская рада і іншыя арганізацыі і ўстановы. Таму няма нічога дзіўнага, што, калі ў лютым 1919 года была створана Літоўска-Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, то менавіта Вільня была абвешчана яе сталіцай.

Пасля завяршэння Першай сусветнай вайны Віленшчына пераходзіла з адных рук у другія, пакуль яе ў 1920 годзе канчаткова не захапіла войска генерала Жалігоўскага. У выніку Вільня часова стала сталіцай так званай Сярэдняй Літвы, якая ў 1922 годзе ўвайшла ў склад Польшчы. У гэты час у Вільні працавала Беларускае выдавецкае таварыства, дзейнічалі Беларускі музей імя Івана Луцкевіча, Таварыства беларускай школы, Беларускае наву-

ковае таварыства, Беларускі студэнцкі саюз, Беларускі сялянскі саюз, Віленская беларуская гімназія, беларуская настаўніцкая семінарыя, шматлікія беларускія палітычныя партыі, гаспадарча-эканамічныя і асветніцкія арганізацыі, установы і таварыствы. У сярэдзіне 1920-х гадоў тут выдавалася больш за 100 беларускамоўных газет і часопісаў. У першай палове 20 стагоддзя ў Вільні жылі і працавалі Янка Купала, Якуб Колас, Максім Гарэцкі, Максім Танк, Язэп Драздовіч, Рыгор Шырма, Браніслаў Тарашкевіч, Вацлаў Ластоўскі і многія іншыя дзеячы беларускай культуры.

Фактычна ў першай трэці 20 стагоддзя Вільня заставалася адным з беларускіх культурных цэнтраў.

У 1939 годзе падчас вызвалення Заходняй Беларусі Чырвоная Армія заняла Віленшчыну. У кастрычніку 1939 года кіраўніцтва Савецкага Саюза перадало Вільню Літве. Пачынаючы з канца 1939 года Вільня стала сталіцай Літвы (буржуазнай і савецкай) і колькасць літоўскага насельніцтва ў горадзе пачала павялічвацца (у 1930-я гады тут было менш 1 % літоўцаў). У той жа час пачала змяншацца роля беларускага насельніцтва




*Старажытная Замкавая вуліца ў Вільні з забудовай 16 стагоддзя*




***План горада Вільні паводле Атласа Георга Браўна (Кёльн, 1581)***

і прысутнасць беларускай культуры. Важна адзначыць, што да 1939 года Вільня заставалася шматкультурным горадам, які на працягу стагоддзяў выконваў ролю аднаго з важнейшых цэнтраў сацыяльна-эканамічнага, нацыянальнага і культурнага жыцця беларусаў. У 20 стагоддзі ён гэту ролю паступова страчвае і для беларусаў усё больш ператвараецца ў гістарычны цэнтр, з якім звязаны рамантычныя пачуцці ў мінулым.

З 1991 года Вільня (па-літоўску Вільнюс) — сталіца і самы вялікі горад Літвы, у якім жыве каля 540 тысяч чалавек. Дагэтуль колькасць беларусаў у Вільні з'яўляецца даволі вялікай. Тут дзейнічаюць шматлікія беларускія грамадскія арганізацыі (клуб «Сябрына», Таварыства беларускай культуры ў Літве і інш.), транслііруюцца беларускія перадачы на радыё і тэлебачанні, працуе Беларуская гімназія імя Ф. Скарыны.

* * *

Вільня адыграла важнейшую ролю ў лёсе Францыска Скарыны. З горадам была звязана прадпрымальніцкая дзейнасць яго бацькі і брата. У Вільні малады Францішак удасканальваў сваю адукацыю і, верагодна, гэта было ў мясцовай кафедральнай школе.

Пасля завяршэння навучання ў Кракаўскім універсітэце Францыск Скарына нейкі час (у 1513—1516 гадах), верагодна, пражываў у сталіцы роднай яму дзяржавы, дзе значную частку паспалітага люду (рамеснікі, гандляры, святары, пісары і інш.) складалі беларусы, а беларуская мова была асноўным сродкам камунікацыі.

Менавіта тады Скарына мог істотна змяніць свае папярэднія навуковыя і службовыя планы, прыняць рызыкоўнае

*Прачысценскі сабор — галоўны праваслаўны храм Вільні*





***Кафля, знойдзеная ў Вільні пры раскопках на тэрыторыі палаца вялікіх князёў і замка***





рашэнне заняцца практычна невядомай у Вялікім Княстве Літоўскім друкарскай і выдавецкай справай, каб паслужыць духоўнаму росквіту сваёй Айчыны. Ён заручыўся падтрымкай сталічных беларускіх прадпрымальнікаў, вызначыў, што будзе выпускаць самыя важныя кнігі ўсяго хрысціянскага свету — Святое Пісанне. У Вільні, відаць, пачалася праца па наладжванні кніжных і навуковых кантактаў, па пошуку, апрацоўцы даступных крыніц, падрыхтоўцы першых тэкстаў і перакладаў.

Ужо пасля завяршэння выдавецкай працы ў Празе Францыск Скарына вярнуўся на Радзіму. Прычын для гэтага магло быць даволі шмат: неспрыяльныя абставіны ў Чэхіі, запрашэнне і падтрымка віленскага біскупа Яна, імкненне зрабіць друкаваную кнігу яшчэ больш блізкай для сваіх суайчыннікаў... У любым выпадку, недзе ў 1520—1521 гадах Скарына вярнуўся на Радзіму і пасяліўся ў сталічнай Вільні. Тут, у доме «найстаршага бурмістра» горада (кіраўніка магістрата) Якуба Бабіча, ён заснаваў уласную друкарню, якая стала першай падобнай установай у Вялікім Княстве Літоўскім.

У гэтай друкарні пабачылі свет знакамітыя «Малая падарожная кніжка» (каля 1522 года) і «Апостал» (у 1525

годзе). Што цікава, стаўленне да Вільні Францыск Скарына зафіксаваў на старонках сваіх выданняў, пазначыўшы, што яны выйшлі «ў слаўным месце Віленскім».

У 1520—1530-я гады Скарына, верагодна, працаваў сакратаром ці памочнікам віленскага біскупа Яна, які меў вельмі ўплывовыя пазіцыі ў Вялікім Княстве Літоўскімі і спрыяў Скарыне ў яго выдавецкай, навуковай і лекарскай дзейнасці.

Магчыма, Францыск Скарына нават пасля выхаду апошняй з вядомых нам яго кніг — «Апостала» — захоўваў планы працягнуць выдавецкую дзейнасць у Вільні. Пра гэта сведчыць яго спроба вывезці ў 1530 годзе з Кёнігсберга ў Вільню майстра-друкара. Даследчыкі выказваюць меркаванне, што ён мог быць адным з асноўных складальнікаў першага Статута Вялікага Княства Літоўскага 1529 года. Верагодна, што існавала задумка выпусціць гэты Статут друкам і адпаведную працу мог бы выканаць вопытны палачанін. Аднак пра выдавецкую дзейнасць Скарыны пасля 1525 года нам ужо нічога не вядома.



*Старажытныя муры Вільні з брамай Субач. Малюнак 1896 года*



*Віленскі бернардзінскі манастыр з касцёлам святой Ганны – сучаснікам Скарыны*

**З Вільняй у Скарыны звязана не толькі прафесійная праца, але і важнейшыя падзеі ў асабістым жыцці. Тут ён ажаніўся з Маргарытай, удавой віленскага радцы Юрыя Адверніка, і жыў у яе мураваным доме на Нямецкай вуліцы недалёка ад палаца князёў Слуцкіх. Тут жа ў яго нарадзіліся дзеці, пра якіх ужо згадваюць дакументы 1530 года.**



# ПОЛЬСКАЕ КАРАЛЕЎСТВА



Фарміраванне Польскага Каралеўства пачалося ў другой палове 10 стагоддзя. Першым вядомым са старажытных летапісаў уладаром Польшчы з'яўляецца Мешка I. Ён кіраваў княствам з 960 года, пачаў працэс хрысціянізацыі палякаў і аб'яднання іх у адной краіне. Аднак як каралеўства краіна афармілася толькі падчас праўлення сына Мешка I — Баляслава I, празванага Храбрым. Ён здолеў пашырыць межы дзяржавы да Дняпра і Карпат, заснаваў асобнае для Польшчы каталіцкае біскупства (у Гнезне) і атрымаў каралеўскую карону (у 1025 годзе).

У гэты час пачало фарміравацца польскае рыцарства і шляхта, адбываўся рост вытворчасці і сельскай гаспадаркі, з'яўляліся новыя гарады. Тым самым краіна дасягнула даволі высокага ўзроўню развіцця і забяспечыла сваю незалежнасць ад Свяшчэннай Рымскай Імперыі. Аднак са смерцю Баляслава I пачаліся міжусобіцы, якія

*Алегарычная выява Польшчы з «Сусветнай Хронікі» Хартмана Шэдаля (1493)*

істотна аслабілі краіну. Многія землі былі захоплены суседнімі дзяржавамі.

Дзякуючы кіраванню краінай Казіміра Узнавіцеля (1034—1058) і Баляслава II Смелага (1058—1079) Польскае Каралеўства здолела часткова ўзнавіць сваю колішнюю веліч.

Аднак агульная слабасць каралеўскай улады і ўмацаванне буйных феадалаў не дазвалялі пераадолець крызіс і вялі да экспансіі з боку Германіі, Даніі, Чэхіі і Русі. У выніку Польшча нават была падзелена на некалькі ўдзельных княстваў і часова страціла статус каралеўства. У 13 стагоддзі Польшча пакутавала ад пастаянных набегаў на краіну з усіх бакоў. Апрача названых раней моцных суседзяў з'явіліся і новыя пагрозы ў выглядзе мангола-татараў (у 1241 годзе яны нават захапілі і спалілі Кракаў) і крыжакоў. Трэба сказаць, што польскія князі самі спрычыніліся да з'яўлення крыжацкай пагрозы, бо ў 1226 годзе князь Конрад Мазавецкі запрасіў рыцараў Тэўтонскага ордэна для барацьбы з прусамі ў Прыбалтыцы. У выніку Польшча займела сабе яшчэ аднаго моцнага канкурэнта.

У той жа час актывізацыя кантактаў з Германіяй і Тэўтонскім ордэнам мела не толькі адмоўныя вынікі, але таксама паўплывала на развіццё польскай эканомікі, вайсковай практыкі, прававой сістэмы. Усё гэта ў далейшым паспрыяла ўмацаванню краіны.

Перыяд умацавання Польшчы прыпаў на часы Уладзіслава I Лакоткі (1320—1333), які першым з польскіх валадароў быў каранаваны ў Кракаве — будучай сталіцы дзяржавы. Яго сын — Казімір III Вялікі (1333—1370) вярнуў Польшчы захопленыя суседзямі землі і нават далучыў новыя ўладанні. Гэты час для Польшчы называюць пачаткам нацыянальнага адраджэння, бо ўзрасла ваенная і эканамічная моц краіны, адбылася кадыфікацыя польскага заканадаўства (збор статутаў



***Мешка I – творца польскай дзяржаўнасці і першы польскі князь (партрэт работы Яна Матэйкі)***



***Помнік Баляславу Храбраму ў Гнезне***

Казіміра Вялікага), праведзены адміністрацыйная і грашовая рэформы, заснавана Кракаўская акадэмія (1364), актыўна развівалася мураванае будаўніцтва.

У 1386 годзе польская каралева Ядвіга пабралася шлюбам з вялікім князем Вялікага Княства Літоўскага Ягайлам, што замацавала персанальны саюз дзвюх дзяржаў. Гэта дазволіла істотна ўмацаваць краіну і пераможна завяршыць векавое змаганне з крыжакамі Тэўтонскага ордэна, якое было канчаткова вырашана падчас перамогі ў Грунвальдскай бітве 1410 года.

Ад Ягайлы бярэ пачатак дынастыя Ягелонаў, якая кіравала Каронай і



***Гістарычны цэнтр Гнезна – першай сталіцы Польскага Княства***

*Польская каралеўская рада ў часы Казіміра Вялікага (14 стагоддзе)*

Княствам на працягу двух стагоддзяў. У гэты час сфарміравалася двухпалатная структура польскага сейма — галоўнага саслоўна-прадстаўнічага органа краіны.

У 1569 годзе Польскае Каралеўства і Вялікае Княства Літоўскае перайшлі на новы ўзровень узаемных дачыненняў: паводле Люблінскай уніі дзве краіны аб'ядналіся ў адну канфедэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую.

На гэтым існаванне самастойнага Польскага Каралеўства было скончана, хаця менавіта польскі фактар меў вырашальнае значэнне ў справах Рэчы Паспалітай. Пастаянныя напады на краіну з боку казакоў, Расіі,



*Вялікая пячатка Уладзіслава Ягайлы з выявай караля і гербаў польскіх ваяводстваў*



*Надмагілле Уладзіслава Ягайлы – пачынальніка дынастыі Ягелонаў*

Турцыі, Швецыі, Аўстрыі і Прусіі вялі да паступовага аслаблення і ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай у канцы 18 стагоддзя.

Пераемніцай гістарычных традыцый Польскага Каралеўства і Рэчы Паспалітай лічыцца сучасная Рэспубліка Польшча — вялікая цэнтральнаеўрапейская дзяржава, размешчаная на ўзбярэжжы Балтыйскага мора і сумежная з Германіяй, Чэхіяй, Славакіяй, Украінай, Беларуссю, Літвой і з Калінінградскай вобласцю Расіі.



*Польскія мяшчане 16 стагоддзя (рэканструкцыя Яна Матэйкі)*




*Польшча і Вялікае Княства Літоўскае ў «Касмаграфіі» Мюнстэра (каля 1550 года)*

**Знаходжанне Францыска Скарыны ў Польшчы прыпадае на 16 стагоддзе. Што цікава, менавіта на гэты час прыпадае перыяд найбольшага росквіту Польскага Каралеўства, які часам называюць «залатым векам» краіны. Кракаў стаў адным з культурных і навуковых цэнтраў Еўропы. Францыск Скарына мог блізка пазнаёміцца з дасягненнямі мясцовай культуры, у тым ліку з польскім кнігадрукаваннем.**

# КРАКАЎ

Кракаў быў сталіцай Польскага Каралеўства ў 14—16 стагоддзях. У гістарычных крыніцах гэты горад упершыню згадваецца пад 966 годам. На той час ён апісваецца як прыкметны гандлёвы цэнтр пад уладай чэшскага князя. Упершыню яго здолеў далучыць да Польскай Дзяржавы князь Мешка I, які адваяваў гэтыя землі ў чэхаў. Хуткаму эканамічнаму росту горада спрыяла суднаходства на рацэ Вісле, якое пачыналася якраз з Кракава. Ужо ў 1000 годзе Баляслаў Храбры заснаваў у Кракаве епіскапскую кафедру. У 1039 годзе (пры Казіміры I) сюды нават часова была перанесена сталіца Польшчы.

У 1241 годзе Кракаў быў захоплены і знішчаны падчас татара-мангольскага ўварвання ў Польшчу. Але ўжо ў хуткім часе горад быў адбудаваны нанава і нават атрымаў у 1257 годзе самакіраванне ў адпаведнасці з магдэбургскім правам.




*Кракаў на гравюры з «Сусветнай Хронікі» Хартмана Шэдаля (1493)*



*Панарама Кракава 1536 года*

У 1320 годзе Папа Рымскі Іаан XXII каранаваў Уладзіслава Лакотку польскім каралём. З таго часу Кракаў стаў сталіцай каралеўства і ў горадзе з'явілася рэзідэнцыя кіраўніка дзяржавы.

У 1364 годзе Казімірам III была заснавана Кракаўская акадэмія, якая ў далейшым пераўтварылася ў знаміты Кракаўскі ўніверсітэт. Да сярэдзіны 16 стагоддзя ён быў адзінай вышэйшай навучальнай установай ва Ўсходняй Еўропе і галоўнай вышэйшай школай для моладзі з Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага. Для апошніх у Кракаве каралём Ягайлам быў створаны дом (інтэрнат), у якім жылі бедныя студэнты, асабліва тыя, якія «прыбылі з Літвы і Русі».

Бурнае развіццё горада адбывалася ў 15—16 стагоддзях, што звязана з выкананнем ім палітычнай ролі сталіцы краіны, а таксама выкарыстаннем зручнага становішча на скрыжаванні гандлёвых шляхоў. У сувязі з гэтым разам з развіццём каралеўскага замка і палацаў на кракаўскім Вавелі адбывалася ўмацаванне альтэрнатыўнага цэнтра горада — гандлёвай плошчы.

Пасля аб'яднання Польскага Каралеўства з Вялікім Княствам Літоўскім на падставе Люблінскай уніі 1569 года Кракаў разам з Вільняй стаў адной са сталіц дзяржавы. Аднак аб'яднанне вымусіла шукаць новае месца для сталіцы агульнай краіны на памежжы абедзвюх яе частак. У сувязі з гэтым у 1596 годзе кароль Жыгімонт III часова перанёс месцазнаходжанне двара ў Варшаву, а ў 1610 годзе гэты горад

*Замак у Кракаве ў наш час*

*Марыяцкі касцёл на Рынкавай плошчы*



афіцыйна быў абвешчаны новай сталіцай Рэчы Паспалітай. З гэтага часу пачаўся паступовы заняпад Кракава. Яму паспрыялі ваенныя дзеянні і захопы горада іншаземнымі войскамі ў 17—18 стагоддзях.

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай у 1795 годзе Кракаў перайшоў да Аўстрыі, стаўшы адміністрацыйным цэнтрам правінцыі Заходняя Галіцыя, а ў 1809 годзе горад увайшоў у склад Варшаўскага Герцагства.

Сёння Кракаў — другі (пасля Варшавы) па велічыні горад у Польшчы, адміністрацыйны цэнтр Малапольскага ваяводства. У горадзе пражывае (з улікам бліжэйшых прыгарадаў) больш за мільён чалавек.




*Алтар у Марыяцкім касцёле, створаны ў 1477—1489 гадах — незадоўга да прыезду Францыска Скарыны ў Кракаў*

* * *

У 1504 годзе прага да ведаў прывяла Францыска Скарыну ў Кракаўскі ўніверсітэт, які ўжо паспеў займець статус аднаго з важнейшых інтэлектуальных асяродкаў тагачаснай Еўропы. У дакументах Скарыны на паступленне ва ўніверсітэт Полацк быў пераблытаны з Плоцкам («Franciscus Luce de Ploczko»), але ж там было пазначана сапраўднае прозвішча яго бацькі. Гэта і іншыя пазнейшыя дакументы не дазваляюць сумнявацца, што гутарка ішла пра нашага Францыска Скарыну з Полацка.

Менавіта тут Францыск Скарына атрымаў універсальную адукацыю на аддзяленні вольных мастацтваў, або, як іх яшчэ называлі, вызваленых навук. Аснову навучальнага курса складалі два цыклы: «трывіум», які ўключаў граматыку, рыторыку і дыялектыку, і «квадрыум», што складаўся з арыфметыкі, геаметрыі, астраноміі і музыкі. У 1506 годзе «Францыск з Полацка, ліцвін» паспяхова завяршыў поўны курс навучання, атрымаўшы ступень бакалаўра. Такая адукацыя раскрывала перад студэнтамі шырокі кругагляд і магчымасць удасканалення сваіх ведаў у самых розных сферах прафесійнай творчасці. У далейшым у сваёй выдавецкай і асветніцкай працы Скарына ўспрымаў названыя «сем



***Рэльефная выява заснавання Кракаўскага ўніверсітэта на сцяне Collegium Maius***



***Малюнак з «Кнігі руплівасці» Кракаўскага ўніверсітэта 17—18 стагоддзяў***

вольных мастацтваў» у якасці асновы для навучання і выхавання суайчыннікаў.

Магчыма, у тым жа Кракаўскім універсітэце малады палачанін здолеў атрымаць медыцынскую адукацыю, а таксама мог атрымаць і доктарскую ступень у філасофіі. Абараніць дысертацыю па медыцыне ён, аднак, у Польшчы не меў магчымасці, бо Кракаўскі ўніверсітэт не меў адпаведнага дазволу і права. Таму гэтую задачу Францыск Скарына здолеў выканаць ужо ў італьянскай Падуі.



***Выкладанне ва ўніверсітэце. Гравюра 16 стагоддзя***


*Даўнія памяшканні Кракаўскага ўніверсітэта*



*Аўдыторыі Кракаўскага ўніверсітэта, якія захавалі аблічча часоў Адраджэння*

**Верагодна, што менавіта ў Кракаве Скарына непасрэдна пазнаёміўся з друкаванымі вучэбнымі кнігамі і, магчыма, з якой-небудзь мясцовай друкарняй. У Кракаве Скарына поўнасцю ўсвядоміў вучэбныя і асветніцкія магчымасці друкаванай кнігі, а магчыма, і зацікавіўся ўласнай, выдавецкай дзейнасцю.**

**Аднак распачаць сваю выдавецкую дзейнасць Скарына вырашыў не ў Кракаве. У Польшчы, дзе ўплывовыя свецкія і духоўныя эліты супрацьдзейнічалі самастойнасці ВКЛ, адносіны да кірылічнага кнігадрукавання з'яўляліся насцярожанымі. Памятнай была спроба немца Швайпольта Фіёля наладзіць сталую дзейнасць першай кірылічнай друкарні ў Кракаве. Пасля некалькіх царкоўных выданняў у 1491—1493 гадах праца яе спынілася. Таму Скарына накіраваўся ў Прагу, дзе і пачалося беларускае кнігадрукаванне.**

# ПОЗНАНЬ

Познань (ці Пазнань) — адзін з найстарэйшых і найбуйнейшых польскіх гарадоў. Ён размешчаны на берагах ракі Варта і з'яўляецца сталіцай гістарычнага рэгіёна Вялікая Польшча.

Познань была адным з цэнтраў Каралеўства Польскага ў часы стварэння гэтай дзяржавы — у 10 і 11 стагоддзях. Горад пачаў развівацца ў часы князя Мешкі і караля Баляслава Храбрага — першых польскіх уладароў. У 968 годзе ў горадзе была ўсталявана першая хрысціянская епархія. З таго часу тут стаіць Кафедральны сабор Святых Пятра і Паўла — самая старажытная царква краіны. У тыя часы Познань з'ўлялася адным з двух галоўных цэнтраў Польскай Дзяржавы (другім цэнтрам быў горад Гнезна — першая сталіца Польшчы).

Пасля таго, як чэшскі князь Бржэціслаў I разбурыў абодва гэтыя гарады ў 1039 годзе, сталіца была




***Гравюра з выявай Познані з альбома «Гарады Зямнога Свету» (1617)***



***Фрагмент рэканструяванай часткі Каралеўскага замка ў Познані***

перамешчана ў Кракаў. Але Познань працягвала іграць важную ролю як сталіца Вялікай Польшчы і галоўная крэпасць на заходняй мяжы краіны. У 12 стагоддзі ў горадзе быў заснаваны каралеўскі замак — даўняя рэзідэнцыя польскіх каралёў. У 1253 годзе Познань атрымала гарадскія правы паводле магдэбургскага права.

Інтэнсіўнаму эканамічнаму і культурнаму развіццю горада ў часы Адраджэння спрыяла выгаднае месцазнаходжанне на еўрапейскім гандлёвым маршруце. У 16 стагоддзі ў Познані былі заснаваны дзве вышэйшыя навучальныя ўстановы: Любранская акадэмія і Калегія езуітаў. Ад тых часоў у горадзе захаваліся шматлікія гарадскія помнікі гатычнай і рэнесанснай архітэктуры: касцёлы, жылыя пабудовы, старажытная ратуша. Вакол горада вырасла цэлая сетка мястэчак, якія канкурыравалі паміж сабой, належалі пераважна духавенству і шляхце, але спрыялі таксама росту горада.

У наступных стагоддзях Познань пацярпела ад шведскіх і прускіх уварванняў, якія, нароўні з пажарамі і эпідэміямі, выклікалі вялікія знішчэнні ў горадзе. У рэшце рэшт, у 1793 годзе, пасля Другога падзелу Рэчы

Паспалітай, Познань трапіла пад кантроль Прусіі. У 1815—1848 гадах Познань была адміністрацыйным цэнтрам Вялікага Княства Пазнанскага, а ў далейшым — Пазнанскай правінцыі (Правінцыі Позэн) у складзе Прусіі. У гэты перыяд у Познані адбываўся інтэнсіўны індустрыяльны рост, імкліва будаваліся ваенныя ўмацаванні. Нягледзячы на моцны нямецкі ўплыў, у горадзе развіваўся польскі нацыянальны рух і супрацьстаянне асіміляцыі.

Пасля Першай сусветнай вайны Познань увайшла ў склад аднаўленай Польшчы. Моцныя разбурэнні гораду прынесла Другая сусветная вайна.

Познань сёння — пяты па колькасці насельніцтва горад у Польшчы з насельніцтвам больш за 500 тысяч жыхароў, буйны гандлёвы, прамысловы і адукацыйны цэнтр краіны. У горадзе знаходзяцца ўніверсітэт, медыцынская акадэмія, некалькі тэатраў, праводзяцца штогадовыя міжнародныя кірмашы.

*Фрагменты старажытных умацаванняў у Познані*







*Кафедральны сабор Святых Пятра і Паўла ў Познані*

* * *

У часы Францыска Скарыны назіраўся адзін з перыядаў росквіту Познані. Пасля таго, як да ўлады ў Каралеўстве Польскім прыйшлі Ягелоны (кароль Уладзіслаў Ягайла II і яго нашчадкі), быў адкрыты гандлёвы маршрут праз Познань, які злучаў Вялікае Княства Літоўскае з Еўропай. Таму ў гэтым горадзе заўжды было нямала купцоў з беларускіх зямель.

Недзе ў пачатку ліпеня 1529 года ў Познані памёр старэйшы брат Скарыны Іван, з якім першадрукар, верагодна, удзельнічаў у некаторых гандлёва-камерцыйных аперацыях. Івана падтрымлівала фінансава і жонка Францыска Скарыны — Маргарыта. У той жа час у пазнанскіх «піўніцах» дома Якуба Корба захоўвалася значная частка нераспрададзеных тавараў Івана Скарыны. Для разгляду маёмасных пытанняў у Познань прыехаў і Францыск Скарына. На пасяджэннях мясцовага суда ўсе спрэчкі паміж спадчыннікамі, як падавалася, былі вырашаны.

Аднак у 1531—1532 гадах варшаўскія яўрэі-крэдыторы прад'явілі іск Ф. Скарыну як спадчынніку брата. У выніку гэтага звароту паводле рашэння караля Скарыну трэба было затрымаць і не адпускаць, пакуль той не выплаціць пазыкі. На падставе гэтага рашэння ў сярэдзіне красавіка 1532 года Францыск Скарына быў затрыманы і зняволены ў пазнанскім астрозе. Каб выратаваць беларускага першадрукара з Гданьска прыбыў яго пляменнік Раман, які зрабіў заяву,



***Уладзіслаў Ягайла II***



***Жыгімонт I Стары***



*Асуджаны магістрацкім судом арыштант у калодках. Гравюра 1578 года*

што ён з'яўляецца асноўным спадчыннікам Івана Скарыны і ў стане расплаціцца за пазыкі свайго бацькі. Гэта, аднак, не прывяло да вызвалення палачаніна. Справу вырашыў асабісты ўдзел караля Жыгімонта і, верагодна, віленскага біскупа Яна. Сваім указам кароль вызваліў Францыска Скарыну ад мясцовага суда і засведчыў невінаватасць асветніка — «выдатнага і слаўнага Францыска Скарыны, доктара медыцыны». Больш таго, кароль сваім асобным указам у лістападзе 1532 года засведчыў асабістую апеку Скарыне і вызваліў ад любых будучых судовых прэтэнзій, захаваўшы за сабой права судзіць яго. Безумоўна, усе фінансавыя прэтэнзіі са Скарыны былі зняты.

**Даволі далёкі ад Беларусі горад Познань мае з нашай культурай самыя цесныя сувязі. Яшчэ ў 1894 годзе ў Познані выйшаў адзін з прыжыццёвых зборнікаў паэзіі Францішка Багушэвіча «Смык беларускі». Сёння ў Познані дзейнічае Беларускі культурна-асветніцкі цэнтр, адбываюцца фестывалі беларускай культуры, канцэрты, выстаўкі.**



Каралеўства Данія мае шматвекавую і вельмі багатую гісторыю. З'яўленне дацкай дзяржаўнасці — працяглы і паслядоўны працэс, які расцягнуўся на некалькі стагоддзяў. Назва краіны можа паходзіць альбо ад наймення плямёнаў вікінгаў-данаў, якія прыйшлі сюды з паўднёвай Швецыі, альбо ад стараскандынаўскага слова «дан» — «лес».

Найбольш старажытныя звесткі пра дацкія землі захаваліся да нашага часу ў скандынаўскіх сагах — гістарычных напаўлегендарных аповесцях. Гэтыя звесткі не вызначаюцца гістарычнай дакладнасцю, але сведчаць пра фарміраванне раннефеадальных дзяржаў на дацкіх землях ужо ў самыя старажытныя часы.

Спробы аб'яднання розных дацкіх княстваў у адну дзяржаву паспяхова завяршыліся ў 10 стагоддзі. Першым этнічным каралём-датчанінам лічыцца Кнуд I, чыё кіраванне Даніяй пачалося каля 950 года. Праз трыццаць гадоў пасля гэтага яго ўнук Харальд Сінязубы здолеў зрабіць Данію адзінай дзяржавай. У гэты ж час адбывалася актыўная хрысціянізацыя Даніі: яшчэ з 8 стагоддзя ў Данію пачалі трапляць першыя місіянеры, а ў 10 стагоддзі на тэрыторыі краіны ўжо дзейнічалі тры епархіі. Той жа Харальд Сінязубы стаў і першым хрысціянскім каралём Даніі.

Гэты перыяд гісторыі Даніі цесна звязаны з разбойнымі нападамі дацкіх вікінгаў на прыбярэжныя раёны Заходняй Еўропы. На захопленых тэрыторыях нярэдка ўзнікалі падкантрольныя дзяржавы. Так, у 1018—1035 гадах Кнуд Вялікі стварыў вялікую імперыю, якая ўключала ў сябе акрамя ўласна Даніі таксама Англію і Нарвегію. Аднак падобныя імперыі былі заснаваны на вайсковай сіле і хутка распадаліся пры неспрыяльных умовах. Таму ў 11—12 стагоддзях у Даніі нярэдка адбываліся грамадзянскія войны і паўстанні.



*Харальд Сінязубы*




*Данія (пазначана як Дацыя) на карце з «Сусветнай Хронікі» Хартмана Шэдаля (1493)*

У другой палове 12 стагоддзя аднавіць адзінства краіны здолеў Вальдэмар Вялікі, пры якім быў закладзены замак у паселішчы Хавн, які даў пачатак будучай сталіцы Даніі — Капенгагену. Ваяўнічая палітыка многіх дацкіх каралёў у 12—14 стагоддзях вяла да частай змены перыядаў магутнасці (Данія нярэдка станавілася адной з наймацнейшых краін Еўропы) і часоў аслаблення і нават бескаралеўя.

У 14 стагоддзі дзякуючы захопніцкай палітыцы і дынастычным шлюбам у залежнасць ад Даніі трапіла амаль уся Паўночная Еўропа: Нарвегія, Швецыя, Ісландыя, Грэнландыя, Фарэрскія астравы і частка Фінляндыі. Саюз трох каралеўстваў — Даніі, Швецыі і Нарвегіі — быў замацаваны ў 1397 годзе шляхам падпісання Кальмарскай уніі.



*Крысціян III*

У 16 стагоддзі ў Даніі атрымаў шырокае распаўсюджванне пратэстантызм, а ў 1536 годзе пры Крысціяне III лютэранская царква атрымала статус дзяржаўнай, бо яе падтрымаў сам кароль. У той жа час Данія працягвала весці шматлікія войны з суседнімі краінамі, якія далёка не заўсёды мелі паспяховае завяршэнне. З аднаго боку, краіна страціла некаторыя свае тэрыторыі і паплацілася жыццямі тысяч суайчыннікаў, але з іншага боку, у Даніі з'явіліся шматлікія крэпасці і замкі, палацы і асабнякі, былі заснаваны таксама дацкія Ост-Індская і Вэст-Індская кампаніі, мадэрнізаваны ваенны і гандлёвы флот, цэнтралізавана падатковая сістэма, апублікаваны збор законаў Даніі.

У 18 стагоддзі ў краіне было адменена прыгоннае права, праведзена зямельная рэформа, імкліва развіваліся эканоміка і гандаль з рознымі краінамі Еўропы, Азіі, Афрыкі і Амерыкі. Вялікія эканамічныя страты ў пачатку 19 стагоддзя прынёс Даніі саюз з Францыяй падчас вайсковых кампаній Напалеона. У той жа час плённа развівалася дацкая культура: тварылі скульптар Бертэль Торвальдсан, мастакі Крыстафер Вільгельм Экерсберг і Крыстэн Кёбке, фізік Ганс Крысціян Эрстэд, філосаф Сёрэн К'еркегор, пісьменнік Ханс Крысціян Андэрсан.

У 1849 годзе Данія стала канстытуцыйнай манархіяй: заканадаўчую ўладу ў краіне кароль перадаў выбарнаму парламенту (Рыксдагу), а судовую вызваліў з-пад свайго кантролю. У 20 стагоддзі Данія паступова ішла ў кірунку лібералізацыі дзяржаўнага ладу і сацыяльных рэформ: жанчыны атрымалі права голаса на выбарах, забяспечана даступнасць медыцыны і дапамогі састарэлым людзям, Данія адмовілася ад каланіяльных уладанняў.

У 1951 годзе Данія ўступіла ў НАТА і заключыла Паўночны Саюз з Швецыяй, Нарвегіяй, Фінляндыяй і Ісландыяй. У 1973 годзе Данія стала членам Еўрапейскай эканамічнай супольнасці, што паклала пачатак Еўрапейскага саюза. Сучасная Дацкая Манархія лічыцца адной з самых перадавых у свеце.

* * *

Пра знаходжанне Францыска Скарыны ў Капенгагене мы маем зусім мала звестак. Невядома, калі Скарына пакінуў Кракаў пасля завяршэння навучання ў мясцовым універсітэце і дзе ён знаходзіўся з 1507 па восень 1512 года. Але кароткі запіс у пратаколе падуанскай курыі ад 9 лістапада 1512 года сведчыць, што дзесьці ў гэты перыяд ён выконваў абавязкі сакратара караля «Дацыі» («secretarii Regis Datiae»).

Найбольш верагодна, што пад Дацыяй трэба разумець менавіта Данію. Вельмі часта ў еўрапейскіх дакументах 16 стагоддзя можна сустрэць выпадкі наймення Даніі Дацыяй. Гэта ж адпавядае і практыцы міжнароднай карэспандэнцыі Вялікага Княства Літоўскага. Зрэшты, на званне караля Дацыі мог бы прэтэндаваць толькі дацкі кароль.

Стасункі паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Каралеўствам Данія ў той час былі не вельмі спрыяльнымі: Данія падтрымлівала саперніка княства — Маскоўскую Дзяржаву. Каб улагодзіць узаемаадносіны кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт I летам 1509 года накіраваў у Капенгаген дэлегацыю для заключэння дагавора аб сяброўстве між краінамі. Скарына мог быць адным з удзельнікаў гэтай дэлегацыі. Магчыма, ён застаўся ў Капенгагене з мэтай працы пры двары дацкага караля і прадаўжэння адукацыі ў мясцовым універсітэце.



*Данія ў нашы дні*

**У Каралеўскай бібліятэцы Даніі сёння захоўваецца адзіны асобнік «Малой падарожнай кніжкі» Францыска Скарыны, які ўключае Пасхалію. Па ёй святар і даследчык Аляксандр Надсан здолеў вызначыць час выхаду гэтай кнігі, а таму і пачатак кнігадрукавання ў Вялікім Княстве Літоўскім і на беларускіх этнічных землях — каля 1522 года.**





# КАПЕНГАГЕН

Сталіцай Каралеўства Данія з даўніх часоў і да сёння з'яўляецца Капенгаген — адзін з буйнейшых партоў Паўночнай Еўропы.

Узнік ён на некалькіх астравах у паўночна-ўсходняй частцы сучаснай Даніі. У 12 стагоддзі на месцы Капенгагена знаходзілася невялікая вёска Хавн, у якой неўзабаве быў пабудаваны замак. Апошняе стала прычынай пераўтварэння паселішча ва ўмацаваны горад. У 1254 годзе Капенгаген атрымаў першыя гарадскія прывілеі, а з 1433 года стаў месцам знаходжання каралеўскай рэзідэнцыі.

Да пачатку 16 стагоддзя Капенгаген займеў развітую сістэму абарончых збудаванняў, у тым ліку гарадскія муры, умацаваныя землянымі насыпамі, і вежы. Галоўныя астраўныя раёны Капенгагена злучаліся мостам




*Капенгаген на гравюры 16 стагоддзя*




***План Капенгагена, выкананы Нікала дэ Ферам (Парыж, 1705)***

з пад'ёмным цэнтральным пралётам, пад якім маглі праходзіць марскія судны. Нерэгулярны па планіроўцы горад быў шчыльна забудаваны драўлянымі і фахверкавымі дамамі, у цэнтры пераважалі мураваныя жылыя будынкі з высокімі вільчыкавымі дахамі. Горад упрыгожвалі каралеўскі замак і некалькі іншых манументальных збудаванняў (саборы, цэрквы, ратуша) у гатычным стылі.

Большасць старажытных пабудоў Капенгагена не захавалася да нашага часу ў выніку шматлікіх войнаў і пажараў.

Сучасны Капенгаген з'яўляецца адным з самых прыгожых і добраўпарадкаваных гарадоў Еўропы. У 2013 годзе ён заняў першае месца ў адным з рэйтынгаў найбольш прыдатных для пражывання гарадоў свету.

* * *

У часы Францыска Скарыны рэзідэнцыя дацкага караля знаходзілася менавіта ў Капенгагене.

*Канал у Капенгагене – адно з самых маляўнічых месц горада*



Апрача працы пры двары караля Даніі Скарына мог таксама працягнуць вучобу ў Капенгагенскім універсітэце. Справа ў тым, што нам дагэтуль невядома, дзе ён вучыўся пасля сканчэння Кракаўскага ўніверсітэта і дзе атрымаў медыцынскую адукацыю. Невядома нам таксама і месца атрымання ім доктарскай ступені ў філасофіі. І тое і другое магло быць зроблена Скарынам у Капенгагене падчас працы пры двары караля Даніі.

Капенгагенскі ўніверсітэт быў заснаваны ў 1479 годзе і стаў адным з першых на поўначы Еўропы. Утвораны на ўзор нямецкіх універсітэтаў, ён складаўся з чатырох факультэтаў: факультэта тэалогіі, юрыдычнага факультэта, а таксама медыцынскага і філасофскага факультэтаў. Першапачаткова, як гэта было па ўсёй Еўропе, Капенгагенскі ўніверсітэт падпарадкоўваўся каталіцкай царкве і працаваў як царкоўная навучальная ўстанова. Пратэстанцкі рух у 1530-я гады істотна паўплываў на характар працы ўніверсітэта. З таго часу Капенгагенскі ўніверсітэт прайшоў шлях ад сярэдневяковай навучальнай установы да сучаснага навукова-даследчага цэнтра і перадавога ўніверсітэта.




***А. Дзюрэр. Партрэт маладога чалавека. 1501 год***



***Капенгагенскі ўніверсітэт***




# Венецыянская рэспубліка



Венецыянская Рэспубліка — адна з найважнейшых і наймацнейшых дзяржаў Міжземнамор'я часоў Сярэднявякоўя і Новага часу. Яна размяшчалася на астравах і ўзбярэжжы паўночнай часткі Адрыятычнага мора і займала землі на паўночным захадзе сучаснай Італіі, узбярэжжы Харватыі, а таксама некаторыя іншыя тэрыторыі. Яе цэнтрам і сталіцай была Венецыя.

Тэрыторыя краіны была заселена ў 5 стагоддзі — напрыканцы існавання Рымскай Імперыі. Пасля падзення Заходняй Рымскай Імперыі гэтыя землі трапілі пад уладу племені герулаў (скіраў), потым остготаў і, нарэшце, Візантыі.

З 697 года пачалося паступовае аб'яднанне гэтых зямель пад уладай мясцовых дожаў (князёў) — вышэйшых службовых асоб, якіх абіралі, звычайна, пажыццёва. Кіруючым органам выканаўчай улады ў Венецыі з'яўлялася Рада Сарака. У 1172 годзе з ліку найбольш знатных грамадзян краіны была заснавана Вялікая Рада, якая стала вышэйшай ўладай: абірала дожа і яго дарадцаў, кіраўнікоў рэгіянальных адміністрацый, членаў Сената, ратыфікавала законы і г. д.

Венецыянская Рэспубліка прымала самы актыўны ўдзел у крыжовых паходах, якія істотна паўплывалі на рост яе ўплыву і дабрабыту. Пры гэтым венецыянцы не грэбавалі пасрэдніцкім гандлем паміж бакамі, якія варагавалі, і нажываліся з чужых войнаў.




*Выява Венецыі з «Сусветнай Хронікі» Хартмана Шэдаля (1493)*



*Рэканструкцыя венецыянскай галеі — парусна-вёсельнага судна*



*Венецыя на карціне 1590 года. На заднім плане справа — Палац дожаў*



Так, пры самым актыўным удзеле Венецыянскай Рэспублікі адбываўся Чацвёрты крыжовы паход (1199—1204). Падчас яго рыцары і венецыянскія маракі разграмілі важны венгерскі гандлёвы горад Задар, а затым штурмам узялі Канстанцінопаль. Гэта нанесла непапраўныя страты Візантыі і стала адной з прычын для падзення імперыі ў далейшым. Аднак для Венецыі гэта азначала велізарную здабычу: венецыянцы атрымалі чвэрць тэрыторый і багаццяў імперыі, а таксама палову Канстанцінопаля.

У гэты час Венецыя стварыла моцны флот і яе ўладанні пашырыліся ад Адрыятычнага да Чорнага мораў. У выніку венецыянскія купцы кантралявалі амаль увесь гандаль Еўропы з Азіяй. Найбольшай магутнасці краіна дасягнула ў сярэдзіне 15 стагоддзя: яе тэрыторыя ўключала горад Венецыю і найбліжэйшыя гарады ў Венецыянскай лагуне, некалькі абласцей Верхняй Італіі, усходняе ўзбярэжжа



*Ёзеф Хейнц малодшы. Зала пасяджэнняў Вялікай Рады ў Палацы дожаў (1678)*

Адрыятычнага мора (Істрыю, Далмацыю, часткова Албанію, Марэю і Македонію), а таксама Кіпр, Кандыю (Крыт), Неграпонт (Эўбею) і іншыя астравы грэчаскага архіпелага.

Захаванне статусу вядучай гандлёвай дзяржавы свету патрабавала ад Венецыі пастаяннага змагання з канкурэнтамі і ахвотнікамі захапіць яе багацці. У 13—14 стагоддзях такім канкурэнтам была Генуэзская Рэспубліка, у 15—17 стагоддзях — Асманская Імперыя і Папская Вобласць, Францыя і Іспанія.

Канец 15 — пачатак 16 стагоддзя для Венецыянскай Рэспублікі былі перыядам цяжкіх ваенных дзеянняў і змагання за сваю незалежнасць. У 1494—1496 гадах прайшла Першая, а ў 1499—1504 гадах Другая італьянская вайна. Аднак найбольшы ўплыў на краіну аказала Вайна Камбрэйскай лігі (1508—1516).

У 1508 годзе, жадаючы адняць у Венецыянскай Рэспублікі захопленыя ёю тэрыторыі, Папа Рымскі Юлій II стварыў з Людовікам XII (французскім каралём) і Максіміліянам (імператарам Свяшчэннай Рымскай Імперыі) Камбрэйскую лігу, якая ледзь не знішчыла рэспубліку. Толькі дзякуючы дыпламатычным захадам і ахвяраванню некаторымі раней заваяванымі тэрыторыямі Венецыя здолела вырашыць спрэчныя пытанні з Рымам. У выніку Юлій II выступіў супраць сваіх ранейшых саюзнікаў, стварыў у 1511 годзе «Святую лігу», што аб'яднала Венецыю, Швейцарыю, Іспанію і Англію. Усе разам яны выгналі французаў з італьянскіх зямель.


*Дож і яго світа*




***Матэўс Мерыян. Панарама Венецыі (фрагмент). Франкфурт, 1636 год***

Ужо пасля верагоднага выезду Францыска Скарыны з Падуі, калі ў 1513 годзе новым Папам Рымскім быў абраны Леў X, вайна пачалася з новай сілай. Пры гэтым зноў змяніліся саюзнікі Венецыі. На гэты раз яна заключыла саюз з Францыяй і распачала ваенныя дзеянні з Іспаніяй. Выбар быў зроблены правільна, бо разам яны разбілі швейцарцаў і склалі мірную дамову з Львом X і каралём Іспаніі Карлам I. У 1517 годзе Венецыя заключыла мір з імператарам Свяшчэннай Рымскай Імперыі. У рэшце рэшт Паўночная Італія апынулася падзеленай паміж Францыяй і Венецыяй.

У выніку пастаянных ваенных канфліктаў у 18 стагоддзі рэспубліка амаль перастала прымаць удзел у сусветным гандлі, імкнучыся захаваць свой састарэлы дзяржаўны лад і падтрымліваць кантроль над застаўшыміся ўладаннямі, дзе пражывала каля двух з паловай мільёнаў падданых.

Сваю незалежнасць Венецыянская Рэспубліка страціла ў час войнаў, якія адбываліся пасля Французскай рэва-

**Напярэдадні прыезду Францыска Скарыны ў Венецыянскую Рэспубліку гэта краіна дасягнула свайго найвышэйшага ўзроўню развіцця. Гэта была найбагацейшая дзяржава Еўропы з адносна вялікімі тэрытарыяльнымі ўладаннямі і наймацнейшым флотам, развітымі гандлем і прамысловасцю. Але, што вельмі важна, сярод яе насельніцтва навуковая дзейнасць і мастацкая адукацыя былі распаўсюджаны больш, чым у якой іншай еўрапейскай краіне. Да таго ж Венецыянская Рэспубліка заставалася адной з найбольш талерантных краін Заходняй Еўропы, застаючыся і адной з апошніх рэспублік паміж моцнымі каралеўствамі ды імперыямі.**



люцыі. 12 мая 1797 года апошні венецыянскі дож і Вялікая Рада вымушаны былі падпісаць адрачэнне на карысць Напалеона Банапарта.

* * *

У Венецыі часоў Францыска Скарыны імкліва развівалася рэнесансная культура і гуманістычны рух. Так, гуманістычная традыцыя, звярнуўшыся праз Бога да чалавека і прыроды, шукала новыя шляхі і спосабы, каб дапамагчы ўсебаковаму развіццю асобы. І ўвага да чалавека, які стаў для гуманістаў у цэнтры светабудовы, і зварот да прыроды — усё гэта для гуманістаў было новым спосабам, каб паглыбіць уласнае духоўнае жыццё і здабыць матэрыял для больш шырокага развіцця. З гэтай жа мэтай гуманісты звярнуліся да антычнай культуры. Для творцаў эпохі Адраджэння антычнасць была крыніцай натхнення, асновай іх светаўспрымання (адсюль і назва «Адраджэнне»). Пры гэтым гаворка ішла не аб простай пераемнасці, а аб творчай перапрацоўцы антычнай спадчыны.

Італьянскія краіны лічацца радзімай еўрапейскага Рэнесансу. На момант прыезду Францыска Скарыны ў Венецыянскую Рэспубліку (не пазней восені 1512 года) Рэнесанс ужо ў поўнай меры афарміўся і вызначаў культурнае развіццё краіны. У Венецыі і некаторых іншых гарадах краіны з другой паловы 15 стагоддзя існавала развітае кнігадрукаванне. Несумненна, Скарыну былі вядомы шмат якія друкаваныя італьянскія кнігі. Сам працэс яго навучання ў гэтай краіне і здачы экзаменаў на ступень доктара медыцыны патрабаваў ведання разнастайнай навуковай літаратуры.





# ПАДУЯ

Значную ролю ў лёсе Францыска Скарыны адыграла Падуя — невялікі горад Паўночнай Італіі, які з'яўляўся адным з цэнтраў развіцця асветы і культуры ў часы Рэнесансу.

Сваю гісторыю Падуя пачынае ў антычнасці, калі яна называлася Патавій і была населена венетамі. З тых часоў у горадзе пачалося актыўнае развіццё рамёстваў (найперш, ткацтва). Да таго ж Падуя ўмела карысталася выгадным становішчам на гандлёвым шляху з Альпаў у Рым. Аднак гэта ж становішча нярэдка станавілася прычынай ваенных дзеянняў за валоданне Падуяй і навакольнымі землямі. У розныя гады яе захоплівалі готы, лангабарды, франкі, гвельфы, гібеліны, венецыянцы,




*Абарона Падуі ў 1509 годзе. Гравюра 16 стагоддзя*

**Славу Падуанскаму ўніверсітэту прынеслі многія яго выпускнікі, сярод якіх – астраном і стваральнік геліяцэнтрычнай тэорыі свету Мікалай Капернік, знакамітыя еўрапейскія гуманісты Эразм Ратэрдамскі, Джавані Піка дэла Мірандала і Мікалай Кузанскі, першая жанчына з доктарскай ступенню Алена Лукрэцыя Карнара Піскапія, заснавальнік падуанскай філасофскай школы П'етра д'Абана, заснавальнік навуковай анатоміі Андрэас Везалій, заснавальнік паталагічнай анатоміі Джавані Батыста Марганы, першаадкрывальнік цыркуляцыі крыві Уільям Харві, падарожнік-авантурыст і пісьменнік Джакама Казанова, італьянскія пісьменнікі-гуманісты П'етра Бемба і Тарквата Таса, найбольш вядомы польскі паэт эпохі Адраджэння Ян Каханоўскі і многія іншыя. У гэтым шэрагу як адно з найярчэйшых стаіць і імя беларускага асветніка Францыска Скарыны.**

*Канал са скульптурамі на плошчы Прата-дэла-Вале*







*Зала пасяджэнняў суда Падуі ў Палаца дэла Раджоне (15 стагоддзе). Гэта адна з самых вялікіх залаў Еўропы, што не падзяляецца калонамі*

французы, немцы і іншыя. Для абароны ад заваёўнікаў горад меў развітую сістэму гарадскіх умацаванняў, якія не раз ратавалі жыхароў.

Як ні дзіўна, адно з заваяванняў пайшло Падуі на карысць: найбольшую славу яна займела пасля таго, як была заваявана ў 1405 годзе Венецыянскай Рэспублікай. Горад хутка стаў важным цэнтрам італьянскай культуры, гуманізму і Адраджэння. У Падуі тварылі выдатныя скульптары, архітэктары, мастакі, вучоныя — Данатэла, Якопа і Джавані Беліні, Ціцыян, Джота, Барталамеа Белана і іншыя. Яны стварылі цудоўнае і запамінальнае архітэктурнае і мастацкае асяроддзе, якое дагэтуль вабіць у Падую мільёны турыстаў.

Найбольшую ж вядомасць гэтаму гораду прынёс універсітэт, які быў заснаваны яшчэ ў 1222 годзе. Ён з'яўляецца адным з самых вядомых універсітэтаў у Італіі, а таксама адным з найстарэйшых у свеце (другі ў Італіі пасля Балонскага і сёмы ў свеце). Найбольшага росквіту ён дасягнуў у 15—16 стагоддзях, калі стаў галоўным асветніцкім і навуковым цэнтрам развітой Венецыянскай Рэспублікі.

Падуанскі ўніверсітэт у некаторай меры нагадваў іншыя аналагічныя вышэйшыя навучальныя ўстановы Еўропы. Як і ў іншых сярэдневяковых

універсітэтах, тут былі чатыры факультэты: вольных мастацтваў, права, медыцыны і тэалогіі. Прычым медыцынскі факультэт, які атрымаў самастойнасць у 14 стагоддзі, карыстаўся міжнароднай вядомасцю.

Аднак Падуанскі ўніверсітэт меў і свае адрозненні. Сярод іх — арыентацыя на навучанне вялікай колькасці іншаземцаў. Прыкладна палову ад агульнай колькасці студэнтаў складалі юнакі, якія прыехалі з-за мяжы. Гэтыя студэнты аб'ядноўваліся ў нацыянальныя карпарацыі (так званыя «нацыі»), што мелі свае кіраўніцтва і статуты.

Нямала навучэнцаў прыязджала ў Падую з Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага. Так, у дакументах на паступленне ў Падуанскі ўніверсітэт у канцы 15 — пачатку 16 стагоддзя значацца імёны некалькіх дзясяткаў «літвінаў» і нямала палякаў. У выніку ў 16 стагоддзі ў Падуанскім універсітэце ўзнікла асобная карпарацыя — «нацыя» студэнтаў Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага. Што цікава, 5 жніўня 1507 года рэктарам гэтага ўніверсітэта быў зацверджаны «Андрэй з Польшчы».

У Падуанскім універсітэце панавалі ідэі гуманізму і вальнадумства. Тут сфарміравалася ўласная філасофская школа, прыкметнымі рысамі якой былі свабода думкі, арыентацыя на дасягненні антычных мысліцеляў (найперш Арыстоцеля), а таксама погляды філосафаў Блізкага Ўсходу (напрыклад, Ібн Рушда). У Падуі знайшлі пашыранне матэрыялістычныя погляды, якія



*Падуанскі ўніверсітэт. Палацца дэль Бо*



*Палац падуанскіх епіскапаў, дзе абараняў дысертацыю Францыск Скарына*






*Падуанскі ўніверсітэт. Гравюра 1564 года*

мінімізавалі ролю рэлігіі ў навуковым асэнсаванні свету і аддзялялі рэлігію ад навукі і філасофіі (так, у пачатку 17 стагоддзя ў Падуі жыў і выкладаў ва ўніверсітэце П'етра Пампанацы). Усё гэта не магло не паўплываць на погляды самога Скарыны.

У 1797 годзе, калі скончыла сваё існаванне Венецыянская Рэспубліка, Падуя была акупіравана французскімі войскамі. Пасля гэтага горад пераходзіў з рук у рукі, пакуль у 1866 годзе не быў перададзены наноў створанаму Італьянскаму Каралеўству. Сёння Падуя — горад у італьянскай вобласці Венецыя, цэнтр правінцыі. Насельніцтва горада складае больш за 200 тысяч чалавек.

* * *

Малады палачанін Францыск Скарына імкнуўся да пастаяннага ўдасканалення сваіх ведаў і ніколі не спыняўся на дасягнутым. Атрыманне ім у Кракаве ступені магістра вольных навук не толькі адкрывала шырокія магчымасці для працы на Радзіме, але і рабіла яго жаданым госцем у большасці краін свету. У той жа час для прафесійнага самаўдасканалення заставалася яшчэ адна прыступка — найвышэйшая навуковая ступень — ступень доктара навук. Але і гэта вяршыня не стала недасяжнай для нашага знакамітага суайчынніка і асветніка.



*Навучанне ў еўрапейскім універсітэце. Гравюра з ліёнскага выдання 1520 года з бібліятэкі караля Жыгімонта Аўгуста*

У 1512 годзе ён бліскуча вытрымаў экзамен на ступень доктара медыцыны ў праслаўленым Падуанскім універсітэце: на працягу двух дзён у дыспутах з выдатнымі вучонымі абараняў свае навуковыя тэзісы, а 9 лістапада 1512 года ў біскупскім палацы ў прысутнасці вядомых вучоных, грамадскіх і царкоўных асоб Падуі Скарына быў абвешчаны доктарам медыцыны. Гэта была знамянальная падзея не толькі ў яго жыцці, але і гісторыі беларускай культуры: сын полацкага купца здолеў пераканаўча даказаць, што здольнасці і прызванне важнейшыя за арыстакратычнае паходжанне.

Што ж карыснага атрымаў Францыск Скарына ў Падуі? Найперш, высокую навуковую ступень доктара ў лекарскіх навуках. У далейшым Францыск Скарына вельмі высока цаніў атрыманую навуковую ступень, нязменна згадваючы яе ў сваіх выданнях, у перапісцы з іншымі людзьмі. Доктарам Скарынам асветніка называлі каралі і герцагі, суддзі і святары. Нават блізкія людзі, як пляменнік Раман, звалі яго пры афіцыйным звароце доктарам.

У Падуанскім універсітэце Францыск Скарына больш як нідзе мог пазнаёміцца з ідэямі гуманізму і вальнадумства. Гуманізм Адраджэння знайшоў адлюстраванне ў такіх праявах, як любоў і павага да асобы, імкненне вылучыць яе і ўзвысіць над прыродай, назваць і даць годную ацэнку. Менавіта эпоха гуманізму ўвяла ў культурную прастору асобу аўтара, якая ў Сярэдневякоўі заставалася ў цені. Як асветнік-гуманіст Скарына без лішняга сораму называе сваё імя і нават змяшчае ўласны партрэт у сваіх выданнях. Гэта было нечуваным для тагачаснай кніжнасці на Радзіме асветніка.

*Падуанскі ўніверсітэт. Галерэя Палацца дэль Бо*




*Эмблема Падуанскага ўніверсітэта*

**Вопратка падуанскіх студэнтаў была ўрачыстай. Яны насілі модныя тады панталоны да калена, шоўкавыя сарочкі, на якія апраналіся аксамітавыя плашчы, аблямаваныя мехам. Гэта ўбранства дапаўняла вострая шпага, якой студэнты нярэдка карысталіся па яе асноўным прызначэнні. На галаву апранаўся высокі капялюш, расшыты шнурамі і ўбраны птушыным пер'ем.**

Ідэі вальнадумства і талерантнасці выявіліся ў паважлівым стаўленні Скарыны да сваіх сучаснікаў. Нідзе ён не дазваляе сабе крытыкі ў бок той ці іншай асобы ў залежнасці ад яе нацыянальнасці ці веры. Сёння нам нават цяжка даць адказ на пытанне, якой веры быў сам Францыск Скарына.

Відавочна, што менавіта ў Падуі беларускі асветнік здолеў бліжэй пазнаёміцца з поглядамі паўночнаітальянскіх вучоных на дзяржаву і прававую сістэму грамадства. Напрыклад, выдатным і ўплывовым сучаснікам Скарыны быў Нікало Макіявелі (1469—1527), аўтар знакамітага трактата «Гаспадар». Пазней уласныя погляды на гэта пытанне беларускі вучоны пакінуў у некаторых сваіх выданнях (найперш, у Кнізе Другі Закон).

Тут жа Францыск Скарына здолеў азнаёміцца з найбольш сучаснымі тэхналогіямі ў галіне выдавецкай справы. У Венецыі, а таксама і самой Падуі з другой паловы 15 стагоддзя развівалася кнігадрукаванне, якое дасягнула вельмі высокага ўзроўню. Так, адной з вядомых асоб, што прысутнічалі на экзамене Скарыны, быў Барталамеа Санвіта — вядомы італьянскі рэнесансны перапісчык, ілюмінатар, антыквар, які лічыцца адным са стваральнікаў курсіўнага шрыфту. Распрацаванае ім элегантнае пісьмо паўплывала на далейшае развіццё кнігадрукавання і ў хуткім часе замяніла складаны гатычны шрыфт. Не заўважыць найноўшых тэндэнцый у



*Санці ды Ціта.*
*Партрэт Макіявелі*



*Юстус Сустэрман.*
*Партрэт Галілеа Галілея*

кнігадрукаванні, якія шырока абмяркоўваліся, беларускі вучоны проста не мог.

У Падуі «малады чалавек», як названы Скарына ў дакументах мясцовага ўніверсітэта, атрымаў неабходныя веды ў галінах медыцыны і батанікі, што ў далейшым шматразова спатрэбіліся яму на працягу ўсяго жыцця. У тагачасным свеце лекарскія здольнасці, падмацаваныя адпаведным дыпломам, выклікалі вялікую павагу. Трэба таксама дадаць, што ў тыя гады вельмі высокі аўтарытэт меў і медыцынскі факультэт Падуанскага ўніверсітэта, які заслужана лічыўся адным з лепшых. Усё гэта дазволіла Скарыне стаць вядомым у некалькіх краінах лекарам і паспяхова займацца стварэннем Каралеўскага саду ў Празе, а магчыма, і ў некаторых іншых гарадах.




*Партрэт Францыска Скарыны ў Зале сарака Падуанскага ўніверсітэта*

**Малады вучоны, які прыехаў у Італію з далёкага Полацка, моцна ўразіў мясцовых інтэлектуалаў. Ужо ў 20 стагоддзі, каб ушанаваць той гістарычны момант, партрэт Францыска Скарыны быў змешчаны ў зале славы Падуанскага ўніверсітэта сярод сарака найбольш вядомых выпускнікоў.**



Краінай, у якой пабачыла свет першая беларуская кніга, з'яўляецца Каралеўства Чэхія (таксама называецца Каралеўства Багемія, альбо проста Чэхія), што існавала ў 1212—1806 гадах.

Дзяржаўнасць на гэтых землях існавала і раней. Яшчэ ў 7—8 стагоддзях мясцовае славянскае насельніцтва на фоне змагання супраць авараў пачало самаарганізоўвацца, у выніку чаго ўзнікла першая цэнтральнаеўрапейская дзяржава, якая з 9 стагоддзя атрымала назву Вялікая Маравія. Адзін з кіраўнікоў гэтай краіны па імені Расціслаў запрасіў да сябе двух місіянераў — Кірылу і Мяфодзія. Дзякуючы іх працы Вялікая Маравія атрымала права на богаслужэнні на царкоўнаславянскай мове і выкарыстанне новага віду пісьма — глаголіцы, якую распрацаваў сам Кірыла. У выніку царкоўнаславянская мова стала трэцяй (пасля лацінскай і грэчаскай) сусветнай мовай у Еўропе.

У пачатку 10 стагоддзя сфарміравалася Чэшскае Княства (Багемія), якое стала адным з найбольш уплывовых дзяржаўных фарміраванняў у Цэнтральнай Еўропе, а з 13 стагоддзя яно набыло статус каралеўства. На працягу шматлікіх стагоддзяў Чэшскае Княства (а пасля і Каралеўства) уваходзіла ў склад Свяшчэннай Рымскай Імперыі (да распаду імперыі ў 1806 годзе). Аднак амаль заўсёды Чэхія захоўвала ў

*Сімвалы ўлады чэшскіх манархаў 16 стагоддзя*




*Карта Чэхіі з Атласа Артеліуса 1570 года*

імперыі сваю аўтаномію, а часам нават адстойвала яе са зброяй.

Сваёй найбольшай магутнасці Каралеўства Чэхія дасягнула падчас праўлення Карла IV (1346—1378) — гэта быў «залаты век» краіны. Карл не толькі займаўся ўмацаваннем Чэшскай Дзяржавы, але і стаў імператарам Свяшчэннай Рымскай Імперыі. У выніку гэтага сталіца магутнай дзяржавы была перанесена ў Прагу. Чэшская мова набыла статус афіцыйнай, нароўні з лацінскай і нямецкай. Якраз падчас яго кіравання (у 1348 годзе) у сталіцы дзяржавы быў адкрыты ўніверсітэт, які пазней пачаў называцца Карлавым.

Пасля смерці Карла ў гісторыі Чэхіі пачаўся новы перыяд, цесна звязаны з гусіцкім рухам. Рэктар Пражскага ўніверсітэта і ідэолаг рэфармацыйнага руху Ян Гус пачаў усё больш актыўна заклікаць да рэфармавання царквы, ураўноўвання правоў свецкіх людзей і духавенства, пашырэння і ўмацавання чэшскай мовы ў рэлігійным жыцці. За свае погляды Ян Гус расплаціўся жыццём: ён быў абвінавачаны ў ерасі і спалены на кастры ў цэнтры Прагі 6 ліпеня 1415 года.



*Замак Карлштэйн каля Прагі, збудаваны ў 14 стагоддзі Карлам IV*

У выніку гэтых падзей у краіне пачаліся масавыя хваляванні, якія пераслі ў сапраўдныя ваенныя дзеянні. Імператар Свяшчэннай Рымскай Імперыі Жыгімонт I з блаславення Папы Рымскага нават распачаў крыжовы паход супраць гусітаў, якія адмовіліся прызнаць яго на троне Чэхіі. Ваенныя дзеянні працягваліся да 1434 года і прывялі да спусташэння Чэхіі. Аднак у іх выніку Чэхія амаль на стагоддзе стала самастойнай дзяржавай, якая амаль не залежала ні ад Рыма, ні ад Свяшчэннай Рымскай Імперыі.

Апошні гусіцкі кароль (Іржы з дынастыі Падэбрадаў) памёр у 1471 годзе, пасля чаго кіраўніком краіны быў абраны прадстаўнік дынастыі Ягелонаў — Уладзіслаў II. Ён быў сынам вялікага князя Вялікага Княства Літоўскага і польскага караля Казіміра IV і ўнукам Ягайлы. Адпаведна Жыгімонт Стары, вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага і польскі кароль, быў яму родным братам. Гэта прывяло да актывізацыі стасункаў паміж гэтымі трыма дзяржавамі. У той самы час было дасягнута паразуменне паміж мясцовымі каталікамі і гусітамі.

Выдавецкая дзейнасць Францыска Скарыны ў Чэхіі прыпала на часы, калі гэтай краінай кіраваў малады сын Уладзіслава II Людовік. Адным з яго апекуноў быў Жыгімонт Стары, што таксама спрыяла беларуска-чэшскім кантактам. Аднак Людовік стаў апошнім прадстаўніком дынастыі Ягелонаў на чэшскім прастоле. Пасля яго гібелі

*Вежы Сабора Святога Віта – нацыянальна-гістарычнай святыні Чэхіі*





*Берталан Шэкелі. Мохачская бітва 1526 года*

ў бітве з туркамі пры Мохачы ў 1526 годзе ўлада ў Чэхіі перайшла да дынастыі Габсбургаў, якія стварылі сваю вялікую дзяржаву — Габсбургскую, альбо Аўстрыйскую, Манархію. Першым кіраўніком яе стаў Фердынанд І.

На аснове Аўстрыйскай Манархіі ў 1804 годзе ўзнікла Аўстрыйская Імперыя, якая з 1867 года ператварылася ў Аўстра-Венгрыю. У тыя часы Чэхія не мела сваёй дзяржаўнасці і ўваходзіла ў склад гэтых краін у якасці асобнай вобласці. Тым не менш, з канца 19 стагоддзя пачаўся перыяд чэшскага нацыянальнага адраджэння.

Пасля Першай сусветнай вайны і краху Аўстра-Венгрыі была ўтворана новая краіна — Чэхаславакія. У 1920—1930-я гады яна стала адной з найбольш дэмакратычных шматнацыянальных дзяржаў Еўропы, што паслужыла прычынай агрэсіі да яе з боку гітлераўскай Германіі і яе саюзнікаў. Пасля Другой сусветнай вайны існавала Чэхаславацкая Рэспубліка, якая ў 1993 годзе падзялілася на дзве незалежныя дзяржавы — Чэхію і Славакію.

* * *

У часы Францыска Скарыны Чэхія мела вельмі актыўныя гандлёвыя стасункі з Вялікім Княствам Літоўскім і Польшчай. Чэшскія і мараўскія тканіны ў 15—16 стагоддзях выкарыстоўваліся для вырабу верхняй вопраткі ў Беларусі, Украіне і Літве, тут прадаваліся «мараўскія» чапцы, лужыцкія косы, нажы. Чэшскі грош ў 15—16 стагоддзях быў адной з асноўных плацежных манет у Вялікім Княстве Літоўскім.


Старамесцкая ратуша

Значная колькасць чэшскіх вайскоўцаў служыла ў наёмных войсках Вялікага Княства Літоўскага, абараняючы яго ад замежных нападаў.

У гэтыя ж стагоддзі пашыраюцца культурныя, у тым ліку кніжныя і пісьмовыя сувязі з Чэхіяй. З'яўляюцца беларускія пераклады новых чэшскіх літаратурных твораў. Некаторае пашырэнне атрымліваюць нават гусіцкія ідэі.

Урэшце Чэхія была славянскай краінай, на чале якой стаялі прадстаўнікі той жа дынастыі Ягелонаў. Гэта можа быць адной з прычын, якія паўплывалі на пераезд Скарыны ў Чэхію. Чэшскі славіст Ёзаф Добраўскі выказаў меркаванне, што Скарына мог прымаць удзел у Венскім кангрэсе 1515 года, дзе былі кіраўнікі абедзвюх дзяржаў, пасля чаго ён разам з каралём Чэхіі мог пераехаць у Прагу, дзе працягнуў сваю працу ў якасці пасла ці сакратара.

Тут жа ў Празе Скарына больш блізка пазнаёміўся з багатымі традыцыямі чэшскага кнігадрукавання, што паспрыяла пачатку выдавецкай дзейнасці самога Скарыны.

Пра тое, што Чэхія ўжо мела значныя дасягненні ў гэтым кірунку, сведчыць той факт, што сярод першых друкароў, якія працавалі на Захадзе, сустракаюцца чэхі. Ужо ў 1460-х гадах у чэшскім горадзе Пльзені дзейнічала свая друкарня. Тут каля 1468 года пабачыла свет першае чэшскае выданне — «Траянская хроніка» («Аповесць пра знішчэнне Трої») у перакладзе на чэшскую мову. Там жа ў 1476 годзе выйшла першая дакладна датаваная кніга ў Чэхіі — «Statuta provincialia Ernesti».

У 1478 годзе распачалося кнігадрукаванне ў Празе. У 1487 годзе тут была надрукавана першая біблейская кніга — Псалтыр (гэтаксама называлася і першае выданне Скарыны), а потым байкі Эзопа. У 1488 годзе ў Празе надрукавалі Біблію. Гэта было першае выданне Святога Пісання на славянскай мове. Праз год Біблію на чэшскай мове выдалі таксама ў Кутнай Гары. У пачатку 16 стагоддзя ў Чэхіі з'явіліся друкарні так званых чэшскіх братоў, якія выступалі за царкоўныя рэформы. Вельмі хутка




*Будынак у Празе, дзе ў 1488 годзе была надрукавана Біблія на чэшскай мове*

друкарні з'явіліся таксама і ў Маравіі (у Брно, Аламоўцы і іншых гарадах).

Сёння не выклікае ніякіх сумненняў, што чэшскі пераклад Бібліі, выдадзены гусітамі ў 1506 годзе ў Венецыі, з'яўляецца адной з галоўных крыніц для перакладу Францыска Скарыны.

У Чэхіі здаўна развівалася таксама традыцыя перакладу Бібліі на нацыянальную мову, якая бярэ пачатак яшчэ ў дзейнасці святых Кірылы і Мяфодзія, але ў поўнай меры выявілася ў 14—16 стагоддзях. Агулам у чэшскай рукапіснай традыцыі вядома 25 поўных перакладаў Бібліі, 27 перакладаў Старога і 35 Новага Запавету. Гэтая традыцыя аказала істотны ўплыў на працу беларускага асветніка. Паколькі яго праца над перакладам Бібліі пачалася шмат раней, чым ён пачаў выдаваць свае кнігі, то трэба зрабіць выснову, што Скарына мог жыць і весці навуковую і перакладчыцкую працу ў Чэхіі раней 1517 года.

Адзін раз звязаўшы сябе з Чэхіяй, Францыск Скарына ўжо назаўжды застаўся верным гэтаму краю. І хаця лёс яшчэ не аднойчы скіроўваў яго ў розныя краіны, але сувязь з Чэхіяй больш ніколі не абрывалася. Тут жа і скончыўся жыццёвы шлях беларускага асветніка і першадрукара.

**У Чэхію беларускага гуманіста магла прывабіць таксама надзвычайная верацярпімасць, што панавала ў гэтай краіне. Тут пасля перамогі гусіцкага руху і да фактычнай страты незалежнасці Чэхіі ў 1618—1620 гадах існавала ўнікальная канфесійная сітуацыя, якая вызначала раўнапраўе ўсіх хрысціянскіх канфесій. Падобная сітуацыя ў тыя часы (калі ў Еўропе палалі кастры інквізіцыі і знішчаліся любыя праявы іншадумства) існавала апрача Чэхіі толькі ў дзвюх краінах — Венецыянскай Рэспубліцы і Вялікім Княстве Літоўскім. Як бачна, беларускі асветнік здолеў асабіста пазнаёміцца як з жыццём кожнай з гэтых краін, так і з найбольш перадавымі гуманістычнымі традыцыямі тагачаснага свету.**




# ПРАГА

Прага — сталіца і найбуйнейшы горад Чэхіі, адзін з прыгажэйшых гарадоў Еўропы і свету, насычаны шматлікімі помнікамі гісторыі і культуры розных часоў і эпох.

Ён размяшчаецца на абодвух берагах ракі Влтавы ў гістарычным рэгіёне Багемія. Паводле легенды, горад быў заснаваны міфічнай княгіняй Лібушай (самастойна ці разам з мужам Пржэмыслам). У сапраўднасці ж першы Пражскі град — драўляную крэпасць — пабудаваў князь з роду Пржэмыславічаў — Баржавой, і адбылося гэта ў другой палове 9 стагоддзя. Крыху пазней — у пачатку 10 стагоддзя — на супрацьлеглым беразе Влтавы паўстаў яшчэ адзін замак — Вышаград. З часам у ваколіцах абодвух умацаванняў сталі будавацца паселішчы рамеснікаў, купцоў, якія паступова павялічваліся, пакуль не зліліся ў адзін вялікі горад. Гандлёвым цэнтрам Прагі стала Рынкавая плошча (сёння яна называецца Старамесцкай). Побач з ёю быў пабудаваны княжацкі палац і некалькі храмаў. Да канца 13 стагоддзя Прага




*Прага на гравюры з «Сусветнай Хронікі» Хартмана Шэдаля (1493)*



*Карл IV*

стала самым буйным горадам на тэрыторыі тагачаснай Чэхіі.

Найбольш актыўнае развіццё горада адбывалася ў 14 стагоддзі, калі імператар Карл IV намагаўся ператварыць Прагу ў сталіцу Свяшчэннай Рымскай Імперыі: найлепшыя архітэктары будавалі шматлікія палацы і храмы, узнікалі нават новыя гарадскія кварталы (напрыклад, Новае Места на правым беразе Влтавы), быў узведзены знакаміты Карлаў мост, пачалося будаўніцтва Сабора Святога Віта, была заснавана буйная епіскапская кафедра і першы ў Цэнтральнай і Ўсходняй Еўропе ўніверсітэт, які сёння таксама носіць імя імператара і завецца Карлавым універсітэтам.

Гусіцкія войны 15 стагоддзя прынеслі Празе, як і ўсёй краіне, спусташэнне. Адбываўся спад эканомікі, многія старажытныя пабудовы былі разбураны, горад некалькі разоў гарэў. Аднак перыяд адноснага спакою ў другой палове 15 стагоддзя паспрыяў аднаўленню разбуранага і далейшаму развіццю горада. Падчас кіравання краінай дынастыі Ягелонаў горад актыўна рос і мацнеў. У тыя гады таленавіты архітэктар Бенедыкт Райт рэканструяваў Стары Каралеўскі палац на Градчанах.

Новы перыяд росквіту Прагі звязаны з абраннем яе ў якасці сваёй рэзідэнцыі імператарам Рудольфам II у 1583 годзе. Імператар не шкадаваў сродкаў для ўдасканалення і ўпрыгожання сваёй сталіцы. З Італіі запрашаліся вядомыя скульптары і архітэктары, якія ўзводзілі ў Празе новыя палацы і храмы. Пры двары знаходзілася нямала дзеячаў мастацтва, вучоных, алхімікаў, астраномаў і астролагаў. Рудольф II быў сапраўдным мецэнатам і сабраў багацейшую калекцыю старажытнасцей і твораў мастацтва, спрыяў развіццю ўніверсітэта.

Пасля таго, як у 1618 годзе пачалася Трыццацігадовая вайна і чэшская шляхта пацярпела паражэнне ад імперскіх войскаў на Белай Гары ў 1620 годзе, пачаўся заняпад Прагі. Каралеўскі двор канчаткова перамясціўся ў Вену. Туды ж былі вывезены


*Пражскі град на старадаўняй гравюры*

шматлікія мастацкія калекцыі, пераехалі вучоныя і мастакі. Многія пабудовы ў горадзе былі проста разбураны. У той жа час адбывалася анямечванне насельніцтва. Многія, асабліва прадстаўнікі вышэйшых саслоўяў, замест роднай мовы карысталіся нямецкай.

У 1784 годзе адбылося аб'яднанне чатырох асобных частак горада (да таго — самастойных) — Старога Места, Новага Места, Малай Страны і Градчанаў — у адзінае адміністрацыйнае цэлае. У гэты ж перыяд пачынаецца рух за нацыянальнае адраджэнне. У 19 стагоддзі Прага актыўна расла дзякуючы прыезду ў горад вялікай колькасці сельскага насельніцтва, індустрыялізацыі, паляпшэнню якасці і ўзроўню жыцця. У міжваенны перыяд Прага была сталіцай незалежнай

Чэхаславакіі, галоўным палітычным, эканамічным і культурным цэнтрам краіны.

З 1993 года Прага — сталіца Чэшскай Рэспублікі (з 2016 года — Чэхіі). Сёння ў Празе і яе гарадскіх прадмесцях пражывае каля 2 мільёнаў чалавек. Вялікая колькасць культурных помнікаў у Празе стала прычынай уключэння гістарычнага цэнтра горада ў Спіс аб'ектаў Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.

* * *

Час прыезду Францыска Скарыны ў Прагу высветліць даволі складана, але на думку вучоных, гэта магло адбыцца каля 1515 года. Існуе нават гіпотэза, што беларускі асветнік, які нярэдка выконваў функцыі сакратара некалькіх кіраўнікоў дзяржаў і разумнага дарадцы, у 1515 годзе прымаў удзел у вядомым Венскім кангрэсе і ўваходзіў у склад дэлегацыі вялікага князя літоўскага і польскага караля Жыгімонта Старога. Пасля завяршэння кангрэса Скарына мог скіравацца ў Прагу і застацца пры двары чэшскіх каралёў — Уладзіслава II і яго сына Людовіка, якія з'яўляліся блізкімі сваякамі Жыгімонта Старога.

Менавіта гэты горад для здзяйснення сваіх выдавецкіх планаў абраў Францыск Скарына. У 1517 годзе ён апублікаваў тут адразу 4 кнігі Старога Запавету, а на працягу наступных двух гадоў — яшчэ не менш як дзевятнаццаць. Існуе таксама думка, што беларускі першадрукар паспеў выдаць у Празе ўсе кнігі Старога Запавету, аднак некаторыя з іх не захаваліся да нашага часу.



***Арлен Кашкурэвіч. Ф.Скарына ў Празе. Літаграфія. 1987 год***

Сваю дзейнасць Скарына ажыццяўляў у Старым Месце (Старым горадзе), што адзначаў у сваіх выданнях: «у вялікім Старым Месце Пражскім».



*Карлаў мост, па якім некалі хадзіў Францыск Скарына*

Гэты перыяд знаходжання Скарыны ў Празе амаль ніяк не адлюстраваны ў архіўных крыніцах. Нічога не вядома і пра яго асабістыя стасункі ў тыя часы. Другі раз Скарына прыехаў у чэшскую сталіцу ўжо ў 1530-х гадах, і пра гэты перыяд яго працы мясцовыя архівы захавалі некаторыя звесткі.

Прычын для пераезду магло быць шмат: на той час памерлі асноўныя мецэнаты і апекуны Скарыны ў Вільні, ён быў уцягнуты ў судовыя спрэчкі з-за маёмасці брата і жонкі, нарастала процістаянне каталіцкага і праваслаўнага духавенства яго друкарскай і асветніцкай дзейнасці, у 1530 годзе ў Вільні адбыўся вялікі пажар, а годам пазней — страшэнная эпідэмія.

У Празе яго талент і веды былі выкарыстаны чэшскім каралём і імператарам Свяшчэннай Рымскай Імперыі германскай нацыі Фердынандам I, які запрасіў Францыска Скарыну для працы ў якасці каралеўскага медыка і садоўніка ў нядаўна адкрытым батанічным садзе. Менавіта ў Празе прайшлі апошнія гады асветніка. Тут ён і памёр. Адбылося гэта не пазней за 29 студзеня 1552 года, пра што сведчыць каралеўская грамата сыну Францыска Скарыны Сімяону.

Беларусы здаўна жылі ў Празе. Ужо ў наш час тут дзейнічалі ці дагэтуль працягваюць дзейнічаць некалькі аб'яднанняў беларусаў Прагі і Чэхіі, у тым ліку беларуская суполка «Скарына», Саюз беларусаў замежжа, аб'яднанне беларусаў «Пагоня» і іншыя. У міжваенны перыяд у Празе выходзіў часопіс «Іскры Скарыны», а сёння выдаецца беларуская газета «Крывія».





# Курфюрства Саксонія



Курфюрства Саксонія — асобнае дзяржаўнае ўтварэнне, якое існавала з 1356 па 1806 гады і ўваходзіла ў склад Свяшчэннай Рымскай Імперыі германскай нацыі.

Дзяржаўнасць на саксонскіх землях пачала складвацца яшчэ ў 7 стагоддзі. Падчас доўгага змагання з імперыяй Карла Вялікага саксы былі заваяваны і ўвайшлі ў склад імперыі франкаў як адно з найбольш значных племянных герцагстваў Усходне-Франкскага Каралеўства. Аднак у 12 стагоддзі герцагства амаль страціла сваю самастойнасць. Каля 1272 года яно падзялілася на 2 герцагствы: Саксен-Вітэнберг (са сталіцай у Вітэнбергу) і Саксен-Лаўэнбург. Першае з іх, як больш моцнае і важнае, пасля Залатой булы імператара Карла IV у 1356 годзе было ператворана ў Курфюрства Саксонія. Гэта дзяржаўнае ўтварэнне шматразова то ўзвышалася, то занепадала, прымала ўдзел у розных ваенных канфліктах, якія часам умацоўвалі, а часам аслаблялі Саксонію.

Падчас кіравання Фрыдрыха III Мудрага (1486—1525) у Саксонскім Кур-




*Сем курфюрстаў абіраюць Генрыха VII імператарам. Выява з «Codex Balduineus» (каля 1340 года)*



*Альбрэхт Дзюрэр. Партрэт Фрыдрыха III Мудрага. Каля 1500 года*

фюрстве пачаў развівацца пратэстанцкі рух. Фрыдрых, а пасля і яго наступнік Ёган Цвёрды падтрымлівалі ідэі Марціна Лютара і хавалі яго ад прадстаўнікоў Рыма і каталіцкіх дзяржаў.

Пасля перыяду цяжкіх ваенных выпрабаванняў у другой палове 18 стагоддзя пачаўся перыяд аднаўлення Саксоніі: актывізавалася здабыча карысных выкапняў, хутка развіваліся прамысловасць і сельская гаспадарка, вялікія дасягненні адбываліся ў сферы навукі і адукацыі.

У 1806 годзе французскі імператар Напалеон абвясціў курфюрста Фрыдрыха Аўгуста III каралём, у выніку чаго Саксонія стала каралеўствам. Пасля паражэння Напалеона тэрыторыя былога Герцагства Саксонія-Вітэнберг перайшла да Прусіі. Сёння саксонскія землі ўваходзяць у склад Германіі.

**Яркім перыядам у гісторыі Курфюрства Саксонія стаў час кіравання Аўгуста II Моцнага (1694—1733). Для нас вельмі важна тое, што ў 1697 годзе гэты саксонскі курфюрст быў абраны таксама каралём Рэчы Паспалітай, а таму ўзначаліў і Саксонію, і Польскае Каралеўства, і Вялікае Княства Літоўскае. Яго кіраванне пакінула вельмі неадназначны след у нашай гісторыі. Ён прымаў удзел у шматлікіх ваенных падзеях таго часу, якія прынеслі краіне шматлікія разбурэнні. У той жа час вялікія багацці трох краін Аўгуст II Моцны і яго сын Аўгуст III (таксама быў каралём Рэчы Паспалітай) выкарыстоўвалі для стварэння багатых мастацкіх калекцый у сталіцы Саксоніі — Дрэздэне. Яны сталі заснавальнікамі многіх найбольш вядомых музеяў Дрэздэна і ўсёй Германіі (у тым ліку знакамітай Дрэздэнскай карціннай галерэі). У той час Дрэздэн стаў адной з найпрыгажэйшых сталіц Германіі, з раскошнымі палацамі, садамі, тэатрамі, зборамі твораў мастацтваў. Можна ўпэўнена казаць пра сувязь гэтых унікальных збораў з Беларуссю.**





# ВІТЭНБЕРГ

Вітэнберг — невялікі горад у Германіі на рацэ Эльбе, які мае выключнае значэнне ў еўрапейскай гісторыі. Упершыню ён згадваецца ў 1180 годзе як паселішча фламандскіх каланістаў. У 1260 годзе Вітэнберг стаў рэзідэнцыяй герцагаў Саксон-Вітэнбергскіх, а ў 1293 годзе атрымаў правы горада. У далейшым тут актыўна развіваліся гандаль і рамёствы.

У канцы 15 стагоддзя Вітэнберг атрымаў статус важнага палітычнага і культурнага цэнтра, дзе знаходзілася рэзідэнцыя саксонскага курфюрста Фрыдрыха III Мудрага. У тыя ж гады вядзецца актыўнае будаўніцтва: перабудоўваецца замак, з'яўляюцца новыя палацы і рэзідэнцыі, узводзіцца новы мост праз Эльбу. У 1496—1506 гадах была пабудавана знакамітая ў далейшым Замкавая царква (Шлоскірхэ). У 1502 годзе заснаваны Вітэнберскі ўніверсітэт, дзе выкладалі такія вядомыя рэлігійныя дзеячы як Марцін Лютар і Філіп Меланхтон. Менавіта ў Вітэнбергу яны зрабілі першыя крокі, што пачалі агульнаеўрапейскі рух Рэфармацыі: 31 кастрычніка 1517 года Марцін Лютар прымацаваў да дзвярэй Замкавай царквы свае 95 тэзісаў супраць продажу індульгенцый (гэта дата лічыцца пачаткам пратэстанцкага руху).


*Вітэнберг у 1536 годзе*

***Рынкавая плошча ў Вітэнбергу з помнікамі Лютару і Меланхтону***

**Гістарычныя драўляныя дзверы, да якіх Лютар прымацаваў свае тэзісы, згарэлі ў 1760 годзе. У 1858 годзе замест іх былі зроблены новыя бронзавыя дзверы, на якіх адліты тэкст 95 тэзісаў на лацінскай мове.**

У другой палове 18 — пачатку 19 стагоддзя горад неаднаразова разбуралі ці захоплівалі войскі суседніх краін — Прусіі, Аўстрыі, Францыі. Тады ж была разбурана і Замкавая царква (узноўлена ў 19 стагоддзі). У часы Напалеона быў закрыты Вітэнбергскі ўніверсітэт.

Цяжкай была гісторыя Вітэнберга ў часы нацызму і Другой сусветнай вайны, аднак горад захаваўся параўнаўча добра і сёння прываблівае мільёны турыстаў з усяго свету.

Сучасны Вітэнберг — акруговы горад у Германіі, у федэральнай зямлі Саксонія-Ангальт. Насельніцтва горада складае каля 50 тысяч чалавек.

* * *

У навуковай літаратуры існуе меркаванне, што ў сярэдзіне 1520-х гадоў Францыск Скарына наведваў Вітэнберг — адзін з галоўных цэнтраў еўрапейскай Рэфармацыі. Там ён мог сустрэцца з ідэолагам нямецкага рэфармацыйнага руху Марцінам Лютэрам.




***Тытульны аркуш першага выдання Бібліі Марціна Лютара 1534 года***

Падставай да ўзнікнення такога меркавання з'яўляюцца вынікі працы вядомага славенскага мовазнаўцы і даследчыка старажытных пісьмовых помнікаў Варфаламея Копітара (1780—1844). Менавіта ён першым выявіў і апісаў крыніцы з гісторыі жыцця Марціна Лютара ў Вітэнбергу і прыезду ў горад нейкага Францыска-паляка ў 1525 годзе. Незнаёмы госць пры сустрэчы вельмі моцна ўразіў Лютара сваімі ведамі і манерамі. Аднак пачынальнік еўрапейскай Рэфармацыі нечакана згадаў прароцтва, што яму варта асцерагацца паляка Францыска, які можа звесці Лютара са свету. Таму спалоханы Лютар патаемна збег з Вітэнберга ў горад Торгаў. Пры гэтым ён абвінаваціў госця ў д'ябальскіх кознях і замаху на сваё жыццё.

Варфаламей Копітар выказаў меркаванне, што апісаным Францыскам-палякам хутчэй за ўсё быў Францыск Скарына. Гэтую версію падтрымалі ў далейшым і многія іншыя даследчыкі — як беларускія, так і замежныя. Аднак існуюць і іншыя абгрунтаваныя меркаванні. Таму ўпэўнена казаць, што менавіта беларускі асветнік сустракаўся з Лютарам і Меланхтонам у Вітэнбергу, мы, на жаль, не можам.

**У Вітэнбергскім універсітэце вучыўся дацкі прынц Гамлет — адзін з галоўных герояў сусветнай літаратуры (герой Ўільяма Шэкспіра). Да таго ж у Вітэнбергу як раз у часы Францыска Скарыны (у 1525—1532 гадах) жыў легендарны доктар Фауст, які стаў героем многіх еўрапейскіх літаратурных твораў, у тым ліку знакамітай трагедыі Ёгана Вольфганга Гётэ. Менавіта таму вядомы беларускі вучоны і пісьменнік Алег Лойка зрабіў доктара Фаўста адным з герояў свайго рамана-эсэ «Францыск Скарына, або Сонца Маладзіковае».**



Вялікае Княства Маскоўскае, або Масковія, — усходні сусед Вялікага Княства Літоўскага, феадальная сярэдневяковая дзяржава з цэнтрам у Маскве.

Сваю гісторыю Маскоўская Дзяржава пачала ў сярэдзіне 13 стагоддзя як удзельнае княства ў складзе Уладзіміра-Суздальскага Княства. Рост яе магутнасці адбываўся ў часы мангола-татарскага нашэсця, калі Паўночна-Усходняя Русь была заваявана Залатой Ардой. Да 1480 года Маскоўскае Княства знаходзілася пад непасрэдным кантролем Арды, ханы якой выдавалі маскоўскім князям ярлык на княжанне. У выніку яна паступова ператварылася ў галоўны цэнтр збору падаткаў з усіх захопленых Ардой зямель Паўночна-Усходняй Русі.

У 1363 годзе ў крыніцах ўпершыню згадваецца назва Вялікага Княства Маскоўскага, якая канчаткова замацавалася ў 1432 годзе. У гэты час адбываўся актыўны рост краіны за кошт захопу ці мірнага далучэння іншых княстваў і зямель, атрымання ці куплі ў Залатой Ардзе ярлыка на некаторыя іншыя захопленыя татара-манголамі княствы.

*«Масковія». Карта з кнігі Сігізмунда Герберштэйна 1549 года*

У канцы 14 стагоддзя Залатая Арда перажыла нашэсце Тамерлана, што значна яе аслабіла. У выніку павялічылася самастайнасць Масковіі, пакуль яшчэ вельмі абмежаваная. Маскоўскае Княства працягвала выплочваць падаткі ў Арду, узгадняць прызначэнне князёў.

Пасля смерці ў 1425 годзе вялікага князя маскоўскага Васіля І на пэўны час фактычным кіраўнікОм краіны стала яго жонка — Соф'я Вітаўтаўна. Яна была адзінай дачкой вялікага князя літоўскага Вітаўта Вялікага. Як паведамляюць гістарычныя крыніцы Соф'я ў 1425—1427 гадах перадала Вялікае Княства Маскоўскае пад апеку свайму бацьку. У выніку вяршэнства беларуска-літоўскага князя прызналі Цвярское, Разанскае і Пронскае Княствы, што істотна ўзмацніла ўплыў Вітаўта на іншыя княствы Паўночна-Усходняй Русі. Цікава, што ў 1451 годзе Соф'я кіравала абаронай Масквы ад татараў.



***Васіль ІІІ — вялікі князь уладзімірскі і маскоўскі ў 1505—1533 гадах. Фрагмент іконы 17 стагоддзя***



***Прыжыццёвы партрэт княгіні Соф'і Вітаўтаўны і яе мужа Васіля І (шоўк, золата, жэмчуг)***

У 1480 годзе Вялікае Княства Маскоўскае канчаткова адстаяла сваю незалежнасць ад Арды. Яно адмовілася плаціць падаткі і сабрала неабходнае войска, каб адстаяць сваю незалежнасць. Пасля падзення Канстанцінопаля ў 1453 годзе Масква пачынае прэтэндаваць на ролю найбуйнейшага цэнтра праваслаўя і збіральніка зямель Русі.

У часы дзейнасці Францыска Скарыны ў Маскве валадарыў Васіль ІІІ — вялікі князь уладзімірскі і маскоўскі. Ён вельмі шмат зрабіў для пашырэння ўласных паўнамоцтваў, жорстка распраўляючыся з усімі незадаволенымі.



*Маскоўскія паслы 16 стагоддзя (паводле «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» А.Гваньіні)*

Сярод іншага, ён ліквідаваў апошнія адметнасці колішніх княстваў, у тым ліку адмяніў вечавое права Пскоўскай Рэспублікі. Па сутнасці дзяржава станавілася моцна цэнтралізаванай з дэспатычнай уладай кіраўніка. Аднак неабмежаваная ўлада вялікага князя дазваляла ажыццявіць некаторыя рэформы, пабудаваць шматлікія храмы і гарадскія ўмацаванні па ўсёй краіне, у поўнай меры далучыць да Масквы адносна самастойныя Разанскае, Старадубскае, Ноўгарад-Северскае Княствы, супрацьстаяць нападам татараў. У 1514 годзе падчас чарговага паходу Васіля III на беларуска-літоўскую дзяржаву, нягледзячы на скрышаль-

**З архіўных дакументаў вядома, што яшчэ бацька беларускага першадрукара Лукаш Скарына меў эканамічныя стасункі з Вялікім Княствам Маскоўскім. Захавалася нават скарга вялікага князя маскоўскага Івана Васільевіча каралю польскаму і вялікаму князю літоўскаму Казіміру (май 1492 года) на нібыта грабежніцкія дзеянні полацкіх купцоў Лікіяна Скарыны і Пракоф'ева ў дачыненні да жыхара Вялікіх Лук Дароні Іванова.**

нае паражэнне пад Оршай, упершыню маскоўскімі войскамі быў захоплены Смаленск, а таксама Мсціслаў, Крычаў і Дуброўна.

Новы этап у гісторыі Маскоўскай Дзяржавы звязаны з часамі дэспатычнага праўлення Івана IV, празванага Жахлівым. Для краіны гэта быў час вялікіх войнаў з суседнімі дзяржавамі, заваёў шматлікіх тэрыторый, беспрэцэдэнтнага ўмацавання ўлады вялікага князя, правядзення рэформы заканадаўчай сістэмы, рэарганізацыі войска. Але гэта быў таксама перыяд вынішчэння іншадумства, падпарадкавання царкоўнай улады волі манарха, умацавання прыгону сялян. У выніку так званай апрычніны былі фізічна знішчаны многія баяры і гараджане, падарвана эканоміка, нанесены ўрон унутранаму і замежнаму гандлю. Знешнепалітычныя памкненні маскоўскага гаспадара выходзілі далёка за межы краіны і дасягалі беларускіх зямель. Так, у выніку нападаў Івана Жахлівага на Вялікае Княства Літоўскае насельніцтва роднай для Скарыны Полаччыны скарацілася ледзь не ўдвая.

Яшчэ ў 1547 годзе адбылася каранацыя Івана Жахлівага ў статусе цара. У 1561 годзе ён атрымаў грамату ад канстанцінопальскага патрыярха Іасафа з прызнаннем права на царства. Новы тытул павінен быў падкрэсліць суверэнітэт Маскоўскай Дзяржавы, а постаць яе кіраўніка паставіць у адзін шэраг з візантыйскім імператарам або мангольскім ханам. З іншага боку, гэты акт пачаў новы этап у гісторыі краіны — часы Маскоўскага Царства. Пры гэтым у заходніх (у тым ліку беларускіх) крыніцах краіна працягвала называцца Масковіяй. У сучасных расійскіх даследаваннях Маскоўскае Царства звычайна называюць Рускай Цэнтралізаванай Дзяржавай. У часы Пятра I Маскоўскае Царства пераўтварылася ў Расійскую Імперыю.



***Аблога Смаленска войскамі Васіля III у 1514 годзе. Мініяцюра***

У 20 стагоддзі на базе колішняй імперыі быў створаны Савецкі Саюз. Вядучую ролю ў гэтай дзяржаве іграла Расійская Савецкая Федэратыўная Сацыялістычная Рэспубліка, якая з 1991 года вылучылася ў Расійскую Федэрацыю.

* * *

Відавочна, што выпуск Францыскам Скарынам кніг Бібліі як камерцыйны і асветніцкі праект прызначаўся для ўсіх усходніх славян — продкаў сучасных беларусаў, расіян і ўкраінцаў, незалежна ад краіны іх пражывання. Беларускі выдавец і першадрукар не мог не бачыць перспектыў распаўсюджвання сваіх выданняў у багатым і шматлюдным Вялікім Княстве Маскоўскім.

Аднак выдавецкія і кнігагандлёвыя ініцыятывы знакамітага палачаніна прыпалі на час царкоўнай рэакцыі ў маскоўскім грамадстве, на ўзмацненне барацьбы з замежнымі ўплывамі на духоўнае жыццё Вялікага Княства Маскоўскага. У выніку афіцыйная царква не прыняла ні выданні Скарыны, ні саму ідэю кнігадрукавання.

У любым выпадку, можна ўпэўнена сцвярджаць, што яшчэ пры жыцці беларускага першадрукара яго кнігі былі добра вядомы ў Маскоўскай Дзяржаве. Напрыклад, іх цытуе вядомы багаслоў таго часу — Максім Грэк. Сучасныя даследаванні сведчаць, што амаль усе выданні Францыска Скарыны былі



*Максім Грэк. Выява са старажытнага рукапісу*

вядомы ў Вялікім Княстве Маскоўскім ужо ў 16 стагоддзі. Пры гэтым аднак амаль усе выпіскі з выданняў Скарыны, выяўленыя ў рускіх рукапісных кнігах, прыводзяцца без пазначэння імя беларускага асветніка. Ствараецца ўражанне, што маскоўская духоўная цэнзура не бачыла ў выданнях Скарыны нічога небяспечнага, але да асобы самога асветніка ставілася з падазрэннем.

Сведчаннем таго, што слова Скарыны дайшло ў суседнюю ўсходнюю дзяржаву, з'яўляецца таксама той факт, што большасць захаваных да сёння яго выданняў захоўваецца менавіта ў Расіі. Прычым многія з іх захоўваюцца там яшчэ з 16 стагоддзя.

**Францыск Скарына, бясспрэчна, падрыхтаваў глебу для дзейнасці Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца, якія праз 47 гадоў пасля знакамітага палачаніна (у 1564 годзе) выпусцілі першую друкаваную кнігу ў Маскоўскім Царстве — «Апостал». Аднак мясцовае грамадства не было гатовым успрыняць і іх працу. Таму Фёдараў і Мсціславец былі вымушаны хутка пакінуць Маскву і выехаць у Вялікае Княства Літоўскае, адкуль (з беларускіх зямель), як мяркуюць даследчыкі, яны і паходзяць родам.**

# МАСКВА

Горад Масква з даўніх часоў выконвае ролю палітычнага, эканамічнага і культурнага цэнтра Расіі.

Археалагічныя даследаванні сведчаць, што ўжо ў 11 стагоддзі на беразе ракі Масква (ад якой паходзіць і назва горада) з'явілася ўмацаванае паселішча. Першае згадванне горада ў летапісных крыніцах датуецца 1147 годам і сведчыць пра прыналежнасць Масквы да ўладанняў суздальскага князя Юрыя Далгарукага. Падчас мангола-




*План Масквы. Расфарбаваная гравюра з Атласа Браўна і Хогенберга (Кёльн, 1575)*

татарскага нашэсця ў 1237—1238 гадах Масква была разбурана, але хутка аднавілася і нават пачала больш актыўна расці і мацнець. Гэтаму спрыяў факт ператварэння горада ў цэнтр збору даніны для Залатой Арды з захопленых татарамі паўночна-ўсходніх рускіх княстваў. З канца 13 стагоддзя Масква ператварылася ў цэнтр удзельнага княства, а з 14 стагоддзя — цэнтр Вялікага Княства Маскоўскага. Каля 1326 года з Уладзіміра ў Маскву перанесена рэзідэнцыя праваслаўных мітрапалітаў.

**У 1368—1372 гадах адбыўся шэраг паспяховых ваенных паходаў вялікага князя літоўскага Альгерда (разам з цвярскімі і смаленскімі князямі) на Маскоўскую Дзяржаву. У выніку Альгерд тройчы стаяў з войскам пад Масквой, тройчы з мірам і вялікай здабычай вяртаўся дадому, пра што ў «Хроніцы Быхаўца» засталіся наступныя словы: «Вялікі Князь Маскоўскі! Памятай, што дзіда літоўская стаяла пад Масквою!»**

*Будаўніцтва ў Маскоўскім Крамлі (акварэль Апалінарыя Васняцова)*



Паспяховыя ваенныя дзеянні і ўдалая знешняя палітыка княства стымулявалі імклівы рост яго сталіцы. У сувязі з гэтым у канцы 15 стагоддзя актыўна развіваецца эканамічнае жыццё Масквы (вытворчасць зброі, тканін, скураных, ганчарных і ювелірных вырабаў), былі заснаваны Гарматны і Парахавы двары. Менавіта ў гэты час у Маскве адбывалася масавае і дасканалае па мастацкіх якасцях мураванае будаўніцтва, для ажыццяўлення якога запрашаліся шматлікія замежныя архітэктары. У выніку дзейнасці італьянскіх дойлідаў сучасны выгляд набылі ўмацаванні Крамля, былі ўзведзены знакамітыя Успенскі і Архангельскі саборы, галоўныя храмы Чудава, Вазнясенскага і Высока-Пятроўскага манастыроў, Вялікі Крамлёўскі палац, Гранавітая палата, высокая званіца Івана Вялікага і многае іншае. Пры Іване III і Васілі III горад ператварыўся ў сталіцу галоўнага і наймацнейшага княства на паўночна-ўсходніх землях колішняй Русі, якое падпарадкавала сабе фактычна ўсе захопленыя раней татарамі рускія землі.

У часы Івана Жахлівага Масква, з аднаго боку, набыла статус сталіцы Вялікага Маскоўскага Царства, але з іншага боку, моцна пацярпела ад царскай апрычніны ў 1560—1570-я гады. Важнейшай падзеяй канца 16 стагоддзя стала здабыццё маскоўскімі царамі згоды на заснаванне Маскоўскай патрыярхіі на аснове мясцовай мітраполіі. У перыяд так званай смуты пачатку 17 стагоддзя Масква была акупіравана беларуска-літоўска-польскімі войскамі, але вызвалена народным апалчэннем на чале з Кузьмой Мініным і Дзмітрыем Пажарскім.



*Успенскі сабор Маскоўскага крамля — галоўны храм дзяржавы*

У 17 стагоддзі Масква замацавала за сабою пазіцыі галоўнага цэнтра рамеснай вытворчасці і гандлю. Гэтаму паспрыяў вываз вялікай колькасці гарадскога адукаванага насельніцтва з беларускіх і ўкраінскіх зямель падчас вайны з Рэччу Паспалітай 1654—1667 гадоў. Вялікая колькасць адукаваных перасяленцаў (па некаторых падліках, каля 20% насельніцтва Масквы на той час складалі беларусы) спрычынілася да развіцця асветы і культуры ў сталіцы суседняга царства: сваёй дзейнасцю праславіўся Сімяон Полацкі, беларусы прынялі ўдзел у гарадскім будаўніцтве (напрыклад, будавалі знакаміты Каломенскі палац), прынеслі ў Маскву аб'ёмную, ажурную, высокарэльефную рэзь (называлася «беларуская рэзь»), сакрэт вырабу рэльефнай шматколернай кафлі, развівалі традыцыі пушкарскай справы і г.д.





Пасля стварэння Расійскай Імперыі і пераносу сталіцы ў 1712 годзе ў Санкт-Пецярбург туды ж перамясціўся і імператарскі двор. Масква захавала статус «першапрастольнай сталіцы» і буйнейшага эканамічнага і гандлёвага цэнтра. Свой ранейшы статус горад вярнуў у 1918 годзе, стаўшы сталіцай Савецкай Расіі і Савецкага Саюза. З 1992 года Масква — сталіца Расійскай Федэрацыі. Сёння гэта самы вялікі паводле колькасці насельніцтва горад (больш 12 мільёнаў жыхароў) не толькі Расіі, але і ўсёй Еўропы.

* * *

Многія даследчыкі лічаць, што ў 1520-х гадах Францыск Скарына наведваў Маскву. Гістарычныя крыніцы кажуць, што ў гэты час нейкі выдавец «рускіх кніг» наведаў Маскву з мэтай распаўсюджання там сваіх выданняў.



***Маскоўская вуліца ў 17 стагоддзі***

Верагодна, гаворка ідзе пра Скарыну, бо іншых выдаўцоў «рускіх кніг» тады яшчэ проста не было. Некаторыя спецыялісты выказваюць меркаванне, што ў Маскву накіроўваўся не сам першадрукар, а яго віленскі апякун і мецэнат Багдан Онкаў, аднак гэта версія выглядае менш верагоднай.

Існуе таксама думка, што асноўнай мэтай паездкі Францыска Скарыны было стварэнне друкарні ў Маскве, каб на месцы друкаваць кнігі для шматлікага праваслаўнага жыхарства Масковіі. Аднак місія атрымалася няўдалай: яго кнігі былі прынародна спалены як выдадзеныя падданым рымскай царквы ў месцы, ёй падначаленым. У напружанай сацыяльна-палітычнай абстаноўцы, пры непасрэдным умяшанні кансерватыўных царкоўных колаў пачынанні беларускага асветніка не маглі быць падтрыманы.

Трэба, аднак, адзначыць, што версія пра візіт Францыска Скарыны ў Маскву не мае бясспрэчных доказаў. Змешчаныя вышэй звесткі пра выдаўца «рускіх кніг» былі прыведзены каралём Жыгімонтам Аўгустам у інструкцыі свайму паслу да папскага двара. У гэтай інструкцыі гаворыцца пра апісанае здарэнне часоў уладарання яго бацькі Жыгімонта Старога. Такім чынам, апісваюцца падзеі адносна даўняга часу. Тым не менш, сапраўднасць апісаных падзей цалкам верагодная.



Прускае Герцагства, або Прусія, — нямецкая дзяржава, створаная ў 1525 годзе на ўзбярэжжы Балтыйскага мора, дзе перад тым меў свае ўладанні Тэўтонскі ордэн.

Яшчэ ў 1225 годзе польскі князь Конрад I Мазавецкі запрасіў тэўтонскіх рыцараў на дапамогу ў барацьбе супраць прусаў, паабяцаўшы ім, што заваяваныя імі тэрыторыі пяройдуць ва ўласнасць рыцараў (крыжакоў). У выніку актыўнай захопніцкай дзейнасці Тэўтонскі ордэн стаў адной з найбольш уплывовых ваенных і палітычных сіл ва Усходняй Еўропе. Больш таго, ён пачаў змяняць задачы сваёй дзейнасці. Першапачаткова ён ствараўся для хрышчэння язычнікаў — прусаў і суседніх балцкіх плямёнаў. Аднак у далейшым Ордэн пашырыў сваю экспансію на славянскія краіны, як праваслаўныя, так і каталіцкія. Пасля вялікага паражэння пад Грунвальдам у 1410 годзе Ордэн трапіў у залежнасць ад Польскага Каралеўства і Вялікага Княства Літоўскага.

У 1520-я гады, калі Прусіяй кіраваў 37-мы вялікі магістр Тэўтонскага ордэна Альбрэхт Брандэнбургскі, тут пачалося пашырэнне ідэй Марціна Лютара. Падтрымаўшы Рэфармацыю, вялікі магістр вырашыўператварыць сваю краіну ў свецкую дзяржаву — Прускае Герцагства. 8 красавіка 1525 года ў Кракаве ён падпісаў мірны дагавор з Польскім Каралеўствам і 10 красавіка 1525 года прынёс васальную прысягу польскаму каралю і вялікаму князю літоўскаму Жыгімонту I Стараму. Пасля гэтага ён з'ехаў на радзіму і адным з першых нямецкіх князёў абвясціў сябе першым прускім герцагам і адкрыта выказаў падтрымку Рэфармацыі. Герцагства стала лютэранскім па веравызнанні. Была рэфармавана ўся дзяржаўная сістэма, створаны новыя кіруючыя ўстановы. У 1544 годзе ў сталіцы герцагства Кёнігсбергу быў заснаваны ўніверсітэт, створаны па ўзоры іншых нямецкіх універсітэтаў. Рэформы Альбрэхта паспрыялі эканамічнаму і культурнаму развіццю Прусіі.

Пасля смерці Альбрэхта Брандэнбургскага ўмацаваўся ўплыў на краіну курфюрстаў іншага нямецкага княства — Брандэнбурга, цэнтрам якога быў горад Берлін. Пры гэтым захоўвалася залежнасць Герцагства ад Рэчы




*Карта Прусіі 1567 года*


Крыжакі. Сучасная рэканструкцыя


Герб вялікіх магістраў Тэўтонскага Ордэна

Паспалітай. Толькі ў 1657 годзе, скарыстаўшыся цяжкім становішчам апошняй падчас войнаў са Швецыяй, Расіяй і ўкраінскімі казакамі, Брандэнбург дамогся фармальнай незалежнасці Прусіі, а рэальна — збліжэння двух нямецкіх краін. У 1701 годзе адбылося канчатковае аб'яднанне Прусіі і Брандэнбурга пад назвай Каралеўства Прусія.

У далейшым менавіта гэта дзяржаўнае ўтварэнне праявіла найбольшую жыццяздольнасць і актыўнасць у рэалізацыі нямецкай палітыкі. У 19 стагоддзі вакол яго згрупаваліся іншыя нямецкія княствы, якія разам утварылі Германскую Імперыю. У ёй, а таксама ў пазнейшых Веймарскай Рэспубліцы і нацысцкай Германіі, землі колішняга Прускага Герцагства называліся Усходняй Прусіяй. Гэта тэрыторыя пасля завяршэння Другой сусветнай вайны была падзелена паміж пераможцамі: цэнтральная частка са сталічным Кёнігсбергам была перададзена Расіі (сучасная Калінінградская вобласць), а прылеглыя тэрыторыі — Польшчы і Літве.

* * *

Прыезд Францыска Скарыны ў Прускае Герцагства ў 1530 годзе супаў з перыядам станаўлення гэтай краіны як свецкай дзяржавы. Прускі манарх шмат увагі надаваў развіццю культуры, навукі і адукацыі ў сваёй дзяржаве.


Прысяга прускага герцага Альбрэхта каралю Жыгімонту Стараму ў 1525 годзе (фрагмент карціны Яна Матэйкі 1882 года)

**Адносна нядаўна даследчыкі звярнулі ўвагу на той факт, што прадстаўнікі полацкага купецкага роду Скарынаў здаўна падтрымлівалі гандлёвыя стасункі з нямецкімі землямі на Балтыцы. Так, напрыклад, вядома, што ў 1440-х гадах нейкі Грыдка Скарына гандляваў воскам (адзін з асноўных экспартных прадуктаў з Полаччыны) з купцамі Лівонскай правінцыі Тэўтонскага Ордэна. У сувязі з гэтым ён наведваў Рыгу і сустракаўся са сваім партнёрам па гандлі па імені Герке.**

З гэтай мэтай у краіну запрашаліся вядомыя вучоныя, рамеснікі, мастакі, майстры слова, педагогі і інш. Адным з іх быў і Францыск Скарына. Беларускі асветнік мог трапіць у Прусію не толькі як вядомы вучоны, перакладчык, друкар, але і як медык. Справа ў тым, што менавіта ў гэты час у Прусіі пашыралася небяспечная эпідэмія — англійская гарачка. Тады вялікі герцаг Альбрэхт Брандэнбургскі звярнуўся па дапамогу да медыкаў суседніх краін, і Скарына, мусіць, адгукнуўся.

Перад Францыскам Скарынам маглі стаяць і іншыя задачы падчас візіту. Як вядома, ён падтрымліваў цесныя стасункі з віленскім каталіцкім біскупам Янам — уплывовай асобай, якая моцна клапацілася пра пашырэнне і захаванне каталіцтва ва Ўсходняй Еўропе. Безумоўна, яго не магло не пужаць пашырэнне ідэй Рэфармацыі ў выглядзе лютэранства ў Саксоніі, а пазней — і ў суседняй Прусіі. Магчыма, Францыск Скарына як свецкая асоба і нейтральны пасрэднік мог быць накіраваны для перамоў спачатку ў Вітэнберг, а пасля і ў сталіцу Прускага Герцагства.

Можна нават выказаць меркаванне, што Скарына мог выканаць даручэнне вышэйшага свецкага і духоўнага кіраўніцтва сваёй краіны па дэстабілізацыі абстаноўкі ў суседняй Прусіі. У выніку ён вывез з гэтай краіны вельмі там патрэбнага прафесіянала-лекара (што магло б прывесці да катастрафічнага пашырэння эпідэміі), а таксама друкара (чым абмежаваў магчымасці для пашырэння ідэй Рэфармацыі).



*Акт васальнай прысягі вышэйшых станаў Прусіі каралю польскаму і вялікаму князю літоўскаму Казіміру (1454)*

# КЁНІГСБЕРГ

Кёнігсберг — гістарычны цэнтр Прусіі, буйны ваенны, палітычны і эканамічны асяродак на Балтыцы.

Горад быў заснаваны крыжакамі Тэўтонскага ордэна ў 1255 годзе. Хутка ён стаў членам Ганзейскай лігі, з 1457 года —

**Гістарычная беларуская назва Кёнігсберга — Каралевец, што з'яўляецца блізкім да сэнсу першапачатковых лацінскай і нямецкай назваў — «каралеўская гара» і «княжацкі горад».**




*Расфарбаваная гравюра з выявай Кёнігсберга (1740)*




*Кёнігсберг на гравюры 1700 года*

галоўнай рэзідэнцыяй (сталіцай) Тэўтонскага Ордэна. Цэнтрам і важнейшай дамінантай горада з'яўляўся замак, размешчаны на ўзгорку высокага правага берага ракі Прэгель. Ад назвы замка атрымаў сваё імя і ўвесь горад.

Першапачаткова замак быў драўляным, але ўжо ў 1257 годзе пачалося будаўніцтва мураванага (цаглянага) замка. Каля сцен замка паступова расло паселішча, якое таксама атрымала назву Кёнігсберг. У 1333 годзе ў гістарычных крыніцах згадваецца будаўніцтва ў цэнтры горада Кафедральнага сабора.

Пасля Трынаццацігадовай вайны 1454—1466 гадоў Тэўтонскі Ордэн прызнаў сябе васалам Польскага Каралеўства. З гэтага часу Кёнігсберг стаў сталіцай краіны. Калі ў 1525 годзе на аснове ўладанняў Ордэна ўзнікла свецкая дзяржава — Прускае Герцагства, сталіцай якога па-ранейшаму застаўся Кёнігсберг. У той час нягледзячы на дамінаванне нямецкіх каланістаў у горадзе пражывалі таксама прадстаўнікі ранейшага насельніцтва — племені прусаў. Яны складалі каля 20% ад усіх жыхароў.

У 1523 годзе Ханс Вайнрайх заснаваў першую ў Кёнігсбергу друкарню, дзе ў 1524 годзе распачаўся друк пратэстанцкай (лютэранскай) літаратуры на нямецкай, лацінскай, польскай, прускай і літоўскай мовах. Так, у 1545 годзе тут выйшла першая ў свеце кніга



*Замак у Кёнігсбергу каля 1840 года. Гравюра па малюнку Б. Петэрса*

на прускай мове, а ў 1547 годзе — на літоўскай мове. Вялікі імпульс развіццю горада надала заснаванне тут у 1544 годзе ўніверсітэта.

У 18—19 стагоддзях горад перажываў імклівы рост і індустрыяльнае развіццё. Яго насельніцтва ў 1782 годзе складала 31 368, у 1888 — 140 909, у 1910 — 249 600 жыхароў. У 1857 годзе сюды прыйшла чыгунка, у 1881 годзе з'явілася конка, а ў 1895 годзе — трамвай. У 1919 годзе ў Кёнігсбергу быў адкрыты адзін з першых у свеце аэрапортаў.

Пасля Першай сусветнай вайны горад разам з усёй Усходняй Прусіяй быў адрэзаны ад асноўнай тэрыторыі Германіі «польскім калідорам». У 1944 годзе Кёнігсберг моцна пацярпеў ад налётаў англійскай авіяцыі і за некалькі дзён згарэў. У красавіку 1945 года горад быў захоплены савецкімі войскамі. Рэшткі нямецкага насельніцтва, якое перажыло вайну, былі выселены за межы Прусіі, а горад і яго наваколле заселены перасяленцамі з Расіі, Украіны і Беларусі (беларусы і цяпер складаюць да 8% насельніцтва). У 1946 годзе Кёнігсберг быў перайменаваны ў Калінінград (у гонар М.І. Калініна) і ўключаны ў склад Расійскай Савецкай Федэратыўнай Сацыялістычнай Рэспублікі. У 1969 годзе былі ўзарваны разваліны старажытнага каралеўскага замка (сёння робяцца некаторыя спробы па іх рэстаўрацыі). У савецкі час Калінінград быў апорным пунктам савецкага флоту на Балтыйскім моры і быў закрыты для наведвання замежнымі грамадзянамі.

Пасля распаду СССР у 1991 годзе, Калінінградская вобласць засталася ў складзе Расіі як анклаў паміж Польшчай і Літвой. У 1996 годзе Калінінград абвешчаны асобнай эканамічнай зонай, дзе працягвае развівацца прамысловасць і вядзецца гандаль з краінамі Еўрапейскага Саюза.

* * *

Францыск Скарына наведаў Кёнігсберг у 1530 годзе. Візіт адбыўся па запрашэнні кіраўніка Прускага Герцагства — герцага Альбрэхта Гагенцолерна. Як мяркуюць даследчыкі, гэта вандроўка была звязана з



*Замак у Кёнігсбергу (1895)*

эпідэміяй, якая спустошыла многія еўрапейскія краіны (так званая англійская гарачка) і якая дайшла да Прусіі. Існуе, аднак, і іншае меркаванне, што ў Кёнігсберг Скарына прыехаў менавіта для таго, каб падтрымаць нядаўна распачатую тут выдавецкую дзейнасць.

Як бы тое ні было, талент «выдатнага і многавучонага мужа» быў вельмі высока ацэнены герцагам Альбрэхтам. Кіраўнік Прусіі так цёпла паставіўся да Скарыны, што залічыў да ліку сваіх падданых і верных слуг «выдатнага, шырокай эрудыцыі мужа Францыска Скарыну з Полацка, доктара прыгожага мастацтва і медыцыны». На падставе гэтых сведчанняў некаторыя даследчыкі нават лічаць, што герцаг Альбрэхт залічыў Скарыну ў дваранскае саслоўе і надаў яму шляхецкія годнасці.

Вяртаючыся на Радзіму, Францыск Скарына патаемна вывез з сабою нейкага друкара (ці не таго самага немца Ганса Вайнрэйха?) і яўрэя-медыка. Гэты ўчынак выклікаў вельмі жорсткую рэакцыю герцага Альбрэхта, пра якую Скарына не мог не здагадвацца. Бясспрэчна, гэта было свядомым рашэннем беларускага асветніка. Яно магло быць прадыктавана надзвычайнай патрэбай Скарыны ў працягу яго выдавецкай і лекарскай дзейнасці. Аднак больш верагодным падаецца, што Скарына мэтанакіравана імкнуўся спыніць нарастанне магутнасці Прускага Герцагства (даўняга канкурэнта Вялікага Княства Літоўскага) і пашырэнне ім пратэстанцкіх ідэй. І сваёй мэты Скарына дасягнуў.


*Помнік Францыску Скарыне ў Калінінградзе*

# Змест







Даведачнае выданне
Беларуская дзіцячая энцыклапедыя
**Суша** Аляксандр Аляксандравіч

# ФРАНЦЫСК СКАРЫНА

У трох частках
Частка 2

## Чалавек свету

*Пры падрыхтоўцы выдання выкарыстаны фотаздымкі аўтара і матэрыялы з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі*

Навуковы рэдактар Л.У. Языковіч
Мастацкае афармленне: П.В. Баранаў
Мастацкі рэдактар: П.В. Баранаў
Камп'ютарная вёрстка: Д.В. Гарэлікаў

Падпісана да друку 25.04.2016.
Фармат 84×108 1/16 . Папера мелаваная.
Друк афсетны. Гарнітура Minion Pro.
Ум. друк. арк. 13,44. Ул. выд. арк. 12,23.
Тыраж 1500 экз. Заказ 725.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/1 ад 08.07.2013.
Зав. Калініна, 16, 220012, г. Мінск, Рэспубліка Беларусь.

ААТ «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/3 ад 04.10.2013.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск, Рэспубліка Беларусь.

